Рыгор Барадулін

# Маўчанне перуна

новая кніга

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1986

# Цяпер

Я ведаю цяпер,
Што я не ведаю нічога,—
Сказаць сабе магу,
Калі
Назад вяртаецца мая дарога,
Стаміўшыся ўцякаць за край зямлі.

Вяртаецца туды,
Адкуль даўно пачаты
Яе разбег і пахаплівы бег.
І ёй яшчэ схавацца
Хочацца пад шаты,
Як мне ў маленстве
Ад дажджу пад мех.

З гадамі ведаю,
Што край зямлі бывае,
Хоць круглая, як воблака, яна.
Я поўны да зямлі любові і павагі,
Як што не так рабіў, мая віна.

Адчуў, не дрэмле вечнасць —
Скупінда старая:
Дні, што дала мне ўранні напавер,
Хутчэй да хвілі забірае,
Калі мой вечар блізіцца,
Цяпер.

Я ведаю,
Што я хацеў бы ўрэшце ведаць.
Відней відаць мне цені на святле.
Дасюль
У мамы ўсё збіраюся паснедаць,
А ўжо вячэра стыне на стале...

## Веды

Малапісьменная
Паводле дадзеных глухіх анкет,
Мама смела
Ведала свет.
Дзіўлюся рознабаковасці ведаў
Маці —
Ведала, што да чаго
На небе,
У лузе,
У хаце.

Ведала тэалогію —
На памяць малітвы шаптала:
　　Абнясі, Божа, тынам
　　Ад зямлі да неба,
　　Сахрані мяне, Божа,
　　Адныні давеку.

Ведала астраномію —
Па зорках дарогу шукала,
Калі пад страхой нябеснай
Перапёлкаю начавала.

Ведала аграномію —
Што сеяць,
Калі і дзе.
Ведала магію светлую —
Як словам дапамагчы бядзе.

Была і ўрачом дзіцячым,
І цвёрдым на руку ветэрынарам —
Цялят прымала,
Карову гарэлкай грэла,
Сына — адварам,

Ведала замовы
Ад вока злога,
Ведала,
Як нешта зварыць з нічога.

Калі ў печы ўсё дагарала,
Кацёл дакарала:
    Чорт бы на цябе гаварыў,
    Каб ты варыў
    Заўсягды,
    Як на дзяды!

Была філолагам
З выключным слыхам —
Умела дзяліцца радасцю кволаю,
Цвяліцца з ліхам.

Умела ладзіць з ялінай калючай,
Са спёкай, з золлю.
Словы лушчыла,
Як у прыпол фасолю:
    Новае сітца,
    Пакуль навісіцца,
    А як навісіцца,
    Дык і пад лаўкай наляжыцца.

Ведала міфалогію
Паганскае даўніны,
Старых святых, а ўсе яны,
Як і суседзі,
Малацілі і веялі
Зярняты спагады, надзеі,
Заклапочаныя, ды не хмурыя
Міколы ды Юр'і,
Варвары ды Аўдакеі.
Хоць да Міколы,
Ні зімы, ні лета ніколі.

Ніпто, што Варвары
Начы ўварвалі.

Праўда, маме
Шмат чаго не ставала:
Спаць не магла да святла,
На шарэнніку ўставала.
П'янела ад лебяды, ад кропу.
Яшчэ заблытвала
Прагноз гараскопу:
Застаўшыся з вайны ўдавою,
І жаўранкам была,
І савою.

Калі і еменкай і семенкай —
Паранка,
Устанеш раней за жаўранка.
Не раскруціўшы турботаў сувоі,
І ўдзень паляціш бяссоннай савою.

Яшчэ не ўмела ў горы хіліцца,
Яшчэ не ўмела
Маці хваліцца.

Так і не спасцігла
Цяжкой навукі —
Стаяць рукі ў бокі,
Сядзець склаўшы рукі.

Пакуль рукі ёй не сашчапіла,
Пакуль адпачыць не ўзяла магіла.

Гэта і ў сшытку неба
Занатавана зорамі —
Каб чытаў я да скону ў сораме,
Што не ведаю нічога без мамы,
Што без мамы
Я — непісьменны сам!

# Маўчанне перуна

*Пімену Панчанку*

Хвалу ўздавала небу нашча
Здаўна
Лясная старана,
Некарчаваны слухаў прашчур
Маўчанне перуна.

Ад клопату адчуўшы продых,
Надзею ўсклаўшы на вясну,
Сырому дубу кленчыў продак,
Маліўся перуну.

Пярун праходзіў бураломам.
Ратай — звяздар і аграном
На злыдняў слаў
Маланку з громам,
Бажыўся перуном.

А я на лусту аржаную
Шапчу:
— Кусціся, ярына!
Прыглухлай бояззю шаную
Маўчанне перуна.

Чалом б'ючы сваім асновам —
Ад курганоў да згаслых трун —
Параіцца хачу са словам,
Пакуль маўчыць пярун.

Да сэнсу хочацца прабіцца,
Як арганаўту да руна.
Яна баіцца,
Навальніца,
Маўчання перуна.

## Начлег у Шарпілаўцы

*Памяці*
*Дамінікі Нічыпараўны Грачанікавай*

— Стукалі-юкалі, а я не пачула,—
Маці запальвае святло скупое.
Ставала шуму, хапіла гулу,
Сама з сабою жыве ў спакоі.

Абначаваць сын прыехаў з сябрамі,
Плача шчаслівa,
Гаворыць гулка,
Усім паслала, усё сабрала,
Каб спаць з дарогі было не мулка.

А коўдра ватняя сыраватая —
Печ паліць рэдка,
Бо лес далёка.
А стома хіліць,
Нібы трава тая,
Што ад упуду і ад суроку.

І гэтак ціха і ўтульна ў хаце,
Як толькі ў маці,
Усім нам спіцца.
А недзе ў небе вятох-рагацік
Да рэчкі хіліцца, каб напіцца.

І зноў нам раніца пахне домам,
Купленым хлебам і сырадоем.
І падплывае наш сум паромам
Да берага,
Што мы да часу тоім.

— Няма ў мяне ўжо ніякага роду,
Апрача дзетак,— кажа старая.

Што з крамы,
Што з ямы,
А што з гарода —
Усё на стале,
А сама ўсё з краю.

— Ешце ягадкі, лесавога
Хоць паспытайце,—
Просіць спагадай.
На ўсіх здароўя просіць у бога,
Маленькім сына свайго прыгадвае.

— Не дзівіцеся, калі што не так,
Як трапіць, заязджайце...

Дагэтуль голас —
Прысталы птах
Ападае з вятрамі, з дажджамі...

# Анямелы роў

Той роў
У неба
Нема
Роў,
Як горла жаху,
Ненажэрна.
Там паміралі акружэнцы,
Аж гліна не ўбірала кроў.

Кабеты назіркам ішлі,
Хто нёс апошнюю скарынку,
Хто неатухлую іскрынку
Убачыць родных не ў зямлі.

І гаспадарыла ў ірве
Карманіха, нібыта ў клеці.
Карцела згрэбці ўсё на свеце
З жывымі дзецьмі
Не ўдаве.

Калі яна здзірала бот
З чарговага,
Раптоўна стома:
— Піць! —
Папрасіла, так, як дома,
Да маці пацягнуўся рот.

Счакала, покуль не заціх,
Сцягнула бот —
Патрэбна ж пара! —
Калі раса на травы пала,
Адна пайшла
Пазней за ўсіх.

Пасля вайны,
Пасля, пасля
Ў казённых ботах афіцэрам
Сын прыязджаў у стахлы церам,
Яна маўчала, як зямля.

Здавалася, што неба кпіць
З яе ад рання да змяркання,
Калі ў лугах прасіла каня,
Нібы ў ірве жахлівым:
— Піць...

# Звеставанне

Благавешчанне,
Звеставанне —
Дзень прылёту буслоў.
Ператомленых крыл астыванне,
З аблачынамі ліставанне
Без слоў.

Блаславенне вады і руні
На нястрыманы бег,
На рост.
Хай жа сонца свой ход кіруе
На дарогу старую,
Гром бярвеннем
Вымасціць мост.

Можа, сам развязаўся вузел,
А звалілі ўсё на бусла.
І збірае прапажу бусел
Аж дасюль па балоце, па лузе —
Светлы цень ад крыла.

Кожнаму, як буслу калісьці,
Даручыў пільнавокі лёс
Несці клунак,
Каб аж хіліўся,
Дзе, як змеі, перапляліся
Смех надзеі з тугой нябёс.

Развязаліся клункі самі.
Не сабраць нам сумныя дні.
І вітаемся мы з буслямі,
Што нябёсы паслалі
Нам,
Заложнікам вышыні.

## Ранішняй песні заступнікі

Вы па-салдацку на палях вайны,
Як на палях старонак вечнасці,
Палеглі абарванымі радкамі,
Паэты Беларускай стараны,
Ваіцелі з паглядамі хлапечымі,
Мысліцелі з шурпатымі рукамі,
Што рызыцы даверылі чаўны.

Вы з велічнага роду мужыкоў,
Вянчанага цапамі і сякерамі,
Прайшлі ад Сталінграда да Берліна,

Астапенка,
Віталін,
Гаўрылаў,
Гейнэ,
Дубровіч,
Жалязняк,
Жаўрук,
Коршак,
Крывец,
Мілюць,
Пруднікаў,
Рагуцкі,
Суніца,
Сурначоў,
Сямашка,
Ушакоў.

Вас выглядала сонца ў вечным цераме,
Шукалі гнёзды ўдовы-курапаткі,
Каліну роспачы заломвала быліна.

Калеснікі,
Калінкавічы,
Бердаж,
Бешанковічы,
Галубічы,
Віцебск,
Сянно,
Вуглы,
Дубна,
Скорычы,
Стары Дзедзін,
Цёплы стан,
Чыгуначная будка ля Старога Сяла,
Слабада,
Барылы,
Рабяткі,—

Не ў замяці вянкоў,
А ў памяці вякоў.
Не летапісцы — ратнікі,
Свае
Пазычылі вы ў дрэў і ў птушак
прозвішчы,
Каб бараніць дубровы і нябёсы.
Калі вясна ад снегу адтае,
Калі гукае вырай след свой босы,
Вас беларускай песні не стае.
І мова беларуская пра вас
У верасні
Свой
Піша
Першы сказ.

## Памяці Варлена Бечыка

Шчодрая смерць
Дазваляе жывому
За хвіліну маўчання
Цяжка ўзважыць наноў
Марнасць мар,
Дзён ахвярнасць,
Нязбытлівасць сноў,
Думку здалёку
Вярнуўшы дадому.

Сквапная смерць
Выбірае спакону
Прыгажосць з прыгажосці,
Дабрыню з дабрыні,
І жудасна робіцца
Чалавечай радні
Ад лютасці скону,
Ад позірку кону.

Злосная смерць
Не нацешыцца з сілы.
Б'юцца жалем аб века
Камякі, медзякі.
А не могуць нічым
Адкупіцца вякі
Ад нахабна-халоднай магілы.

# Кукаванне

*Мангольскаму паэту Даржаа*

На граніцы Ўшацкага раёна,
На граніцы чэрвеня і мая,
Склаўшы аратайныя далоні,
Даржаа
Зязюлю пераймае.

Сябра наш кукуе памаленьку
І чакае ўшацкую кукулку.
А яна,
Няйнакш па вымаўленню,
Распазнала госця,
Тут жа гулка,
Быццам бы паверыўшы, кукуе,
Перапытваючы: а якую
Песню ўчуць хацеў
Здалёку госць?

Ну, а я хапаюся,
Ці ёсць
Нешта ў кашальку,
А ці ў блакноце
Рыфмаў больш,
Чым купін на балоце?

Ад голасу варажбіткі ўздрыгваю,
Паўтараю за традыцыйнай
рыфмаю:
Зязюля — матуля,
Цыбуля — рагуля,
А болей не чую
Ў маторыстым гуле.

З надзеяй гляджу на поле я,
А можа, казуля
У веснім разгуле
З рыфмай рэдкай
Бяжыць у Манголію.
І цікуе крадком,
Як кукуе
Мангольскі калега.

Усе кукуем мы над радком,
Шукаючы летам снегу.
Кукуем — і ўсё здаецца,
Што нехта нам адгукнецца,
Калі не ў прэсе,
Дык у зялёным лесе.
Так лепей!

## Адлега

Чакае хмуры комін перакуру.
Дымок хмурынкі
Чэзне за лясамі.
Нацягнутая снегавеем скура
З цвікамі ледзяшоў
З страхі звісае.

* * *

Хоць не любіць паўтораў свет,
Ды я ўсё адно
Адаграваю след
Твой,
Што прастыў даўно...



Хай сыдзе твар,
Ссякуцца валасы,
Даўжэй, бадай што, пратрывае чэрап.
Шануй адзнакі зніклівай красы
І не спяшайся аддаваць ашчэру.

Адно, што захаваецца ў табе,—
Твой розум, не растрачаны з вякамі.
Так жытні дух
У зглушлівай тарпе —
Як ні скубуць завеі — не знікае!

# Адны

З лясоў, з лугоў
Уладны бог цаны
Ўсё цягне ў дом,
У склеп свой,
У адрынку.
І толькі дзьмухаўцы
Сябе адны
Яшчэ змаглі
Адратаваць ад рынку.

# Дрэва

Дрэва трымаецца,
Ды пакрысе
Час абцярэбіць суччa,
Шашаль кару пагрызе
І сухата нямінуча
Выпетрыць абалонь,
І сын перуна —
Агонь
Будзе адзін нягрэбліва
Заглядацца на сухадрэвіну.
А дрэва рыпець павінна,
Пакуль карані ў зямлі,
Пакуль цяпельца не развялі,
Пакуль трымаецца сарцавіна,
Пакуль атожылак
Выб'ецца з-пад караня,
Пакуль здарожана
Не адаб'ецца ў позірку дня.
І дрэва моўчкі знікае
У сумнай згодзе,
Яно, як і сонца,
Заходзіць
За дубнякамі,
За саснякамі...

## Жаданне

Знаёмых болей, болей,
А незабыўных меней.
Мяняць бы дах на поле,
Мяняць бы страх на волю
Ды радавацца мене!

Штодня расце каштарыс
Даўгоў чужых і нашых.
Чакае цвёрда старасць,
І мы ёй кажам: зараз,
І думаем іначай.

І застаюцца з намі
Клапоты і ўспаміны.
Клапоты стануць снамі,
Сваё адбыўшы ў найме —
Ды ў іншыя даміны!

Мы ўсе — ўспаміны самі,
Свае альбо чужыя.
З пустымі каласамі
Ў снапах плывём вазамі,
Аж вось цярпення ные.

Але надзею зорым
Прысмерклых знічак клінам
Спатрэбіцца разорам,
Дзе наш давер і сорам
Паўторацца ўспамінам.

# Палын і чарнобыль

Палын і чарнобыль —
Браты з даўніны,
На пусташах і на руінах
Трывала карэнне пусцілі яны
Тубыльцамі ў родных краінах.

Святлейшы ўспамінам
Палын-славянін,
Чарнейшы чарнобыль-татарын,
Адзін ласкавеў ля балючых былін,
Другі суравеў ля выгарын.
Яны — пагарэльцы
І сведкі вайны —
Па свеце вандруюць спрадвеку.
Іх лічаць сваімі паны-дзірваны,
Адводзяць ад іх небяспеку.

Сівее ў сухмень,
Серабрыцца палын,
У лівень рунее маўкліва.
Здаецца, чарнобыль
Чакае свой клін,
Што з неба прывабіла ніва.

Палын і чарнобыль,
І мне вы — радня,
Браты па малечай галечы.
Пясчанай каплічцы апошняга дня
Вы глуха атуліце плечы.

## Казка збегла ў пушчу

Сцяжалы рог ласся
Цяжка ў верас
Торкнуўся,
Каб зямля круцілася.

Каб зямля круцілася,
Цемрач карацілася,
Каб зялёнага святла
Ластаўка гняздо звіла.

Аж здаецца — неўзабаве
Мама,
Свецячыся ўся,
Запытае:
— А ці збаяць
Пра белага лася?
— Збай пра белага лася!
— Вось яна і ўся,
Казка збегалася.

Белы лось пабег куды?
Дзе знікае белай плямкай?
Ці ў хлуды
Уцёк худы?

Бразнуўшы халоднай клямкай,
Не чакаючы вячэры,
Зачыняе казка дзверы.
Лось і казка —
Зніклі ўсе.

Чорт ігрушыну трасе.

Хмарка збеглая ў вальеры.

* * *

Праз пакаленняў колькі
У індзейцаў гуляюць дзеці.
Падбіраюць асколкі,
Што ў мурагу гісторыі свеціяцца.
Выклікаюць духаў вякоў
І вяртаюць наноў з нябыту
Чалавечых сваіх сваякоў,
З далоняў вечных пяскоў
Здзьмухнутых, змытых.
Дзе душы індзейцаў,
У раі ці ў пекле?
Няўжо гэта некалі
На нашых непадобныя дзеці,
Забыцця перамогшы зман,
Пасля
Намі выкліканых землятрусаў,
Як у індзейцаў,
Будуць гуляць у зямлян,
У літоўцаў, у беларусаў?



Я — наглядач суровага астрога,
Сачу, каб не ўцяклі з мяне самога
Зайздросць і злосць,
Знявер'е і мана.
Яны,
Зламаўшы ўпартых рэбраў краты,
Сягаюць, як астрожнікі дахаты,
Туды, дзе іх чакае гамана
Доўгаязыкіх плётак, абгавораў.
Як наглядач,
Я мецьму цвёрды нораў,
Каб, божа барані, уцекачы
Знікчэмнец не маглі дапамагчы!
Я — наглядач уласнага астрога,
З трывалых сцен не выпушчу нікога!

## Туман гадоў

Туман гадоў на дне душы гусцее,
З яго саткацца ўрэшце мусіць змрок.
Нібыта позна скошаны мурог,
Зніцелі цені.

Як за лясамі, недзе за гадамі
Гучыць забыта голас маладых,
Якому перайсці брады жуды
Не загадалі.

І разумееш кожны рух і порух
Сваіх равесніц —
Ранішніх дуброў.
Дзе ты гнязда спагады не спароў,
Дзе страх —у норах.

І разумееш зерня нецярпенне
На волю выйсці, рунню прарасці,—
Як ні круці,
А да тваёй куцці
Прыйсці паспее...

* * *

Бачу: з вайны кавыляе
Крыўда старая,
І драўлянаю кавялой,
Як да вайны
Брыгадзіры «казой»,
Метры свае замярае.

А ў небе жаўранкі-бомавозы
Бомы вязуць на вяселле сынам.
Яшчэ дагэтуль ваенным снам
Боезапасы вязуць абозы.

Яго абмінаюць яго ж аднагодкі,
Яны — як-ніяк — на сваіх дваіх,
А ён не спяшаецца —
Склыг ды склыг —
На рынку тлуму тавар не ходкі.

І на магнітную міну болю
Ступае драўлянай —
Прыглух магніт.
На брацкіх магілах сівее граніт.
Вяртацца доўга з апошняга бою.

## Слухай і гавары

Ёсць што гаварыць,
Ды няма каму слухаць.
Лес нецярпення гарыць,
А навокала —глухасць.

А што гаварыць,
Калі
Гаваруны шчаслівыя
Самі сябе звялі,
Далёка іх завялі
Маўклівыя.

А што маўчаць,
Калі
Баляць не на языку мазалі,
А смыліць душа,
Што ўсім давярала спярша,
Ды на яе лілі
Брагу з таго каўша,
З якога звады ваду пілі.

І пакарчаваўшы здрады карчы,
Не маўчы.
І пабываўшы ў віры,
Гавары,
Як крычаць не ўмееш,
Бо анямееш.

І застаўшыся сам-насам
Са скрухай,
Сам сябе слухай!

## Ля дошкі аб'яў

Паэта шукае
Муза,
Галава —
Адпаведнага гуза.

Патрэбен шыі
Трывалы гуж.

Мяняецца паляруш
На ванцак з сінякамі.

Шукае часова самотны муж
Няню,
Якая б у час знікала.

Начальніку патрабуецца падхалім,
Ад якога агонь самалюбства палае.

Прадаецца кілім,
І хтось самалёт дабаўляе.

Прапаў ласкавы бульдог.

Ёсць вакантнае месца
Агалошваць тосты.

Фламайстрам папраўлена:
Крывы Рог
Мяняецца на просты...

Але аб'яву адну на слупе
Чытаў я, вачам не верачы:
Хто знайшоў, хай кашалёк

Забярэ сабе,
А гаспадыні верне
Дакументы і вершы.

Дагэтуль смеласці не стае
Падумаць, што вершы былі мае...

Студэнтачка з вучылішча музычнага
Слабой надзеі смеласці пазычыла...

## Нарэшце

Маўчыць мудрэц — прыціх народ,
Маўчаць яго чарга.
Мудрэц раскрыў нарэшце рот,
І паўтарае ўвесь народ:
Мудрэц сказаў
«Ага!»

## Надпіс на помніку
## ў вёсцы Шунёўка

Як маці заклінаю і малю:
Наступных пакаленняў дзеці, сейце
Бяссмерця зерне ў вечную раллю.
Праклён вайне,
Што сее смерць на свеце!



І пачынаем жыць мы ва ўспамінах,
І берагчы дабро,
Працівячыся злу,
Не важыць праўду
У фунтах ды ў асьмінах,
З трывогай верыць кожнаму вузлу,

Што завязаць ямчэй
Шчырэла памяць,
Каб мех спагад даверыць латаку.

Малоцім даўніх клопатаў цапамі
Снапы нязбыўнай крыўды на таку.
На ток забытасці падвезлі кпіны
Цяжкія непрасохлыя снапы.

Апошнія кватэры —
Успаміны,
Дзе цэдзіцца праз вокны
Дзень скупы...

* * *

З-за ўзгорка сінімі званочкамі
Той асцярожны помах,
І насцярожанасць жаночая —
Каб не было знаёмых...

Пра шэпт і шчэбет у гушчэўніку,
Пра ўцёкі сцежак босых
Раскажа грабянцу вячэрняму
Іголіца ў цёплых косах...

* * *

Як там, у космасе,
Не ведаю,
Тут,
Нематы глухой каля,
Здаецца цеснай і нявветлаю,
Маленькай — без цябе —
Зямля.



Залётныя хмаркі крыўдаў і слёз —
Ахвярніцы нашыя —
Жонкі,
Не срэбра прыгоршчамі сыпаў лёс
У вашых надзей скарбонкі.

А лёс быў, як і капрызны муж,
І злосны, і скупаваты.
І не хапала таксама яму ж
Выходнага дня і зарплаты.

І раставалі абраз ледзяшы
У вашых наіўных далонях.
І вы залатыя запасы душы
Мянялі на срэбра на скронях...



А лівень так і не сабраўся,
Далей падаўся, ў змрок загорнуты.
Здалася нейкай несапраўднай
Вясёлка зябкая за горадам.

Яна спіну хацела выпрастаць,
Ды заміналі цені дахаў.
На ўжо амаль што летніх выпасах
Наш першы прыпар недзе дыхаў.

Твая надзённая паспешлівасць
Тралейбусу перадалася.
Вясёлка маладой усмешкаю
Тваёй, разгубленай,
Цвіла ўся...



Люстэрка паказвае мне
Сівабародую стому.
Ды я яшчэ ў той старане,
Дзе смех уцякае з дому.

Ды я яшчэ ў той пары,
Ды я яшчэ ў тым узросце,
Дзе дрэвы
Усе ў бары,
Дзе ані сляда на бяросце.

Ад кулі — асвы сляпой,
Ад распушчонкі сякеры,
Дзе нераспачатай капой
Гады маладжавай веры.

Не страх і не смех,
А здзіў
Змаўкае з пытаннем скрушным:
Каго гэта час пасадзіў
Перад люстэркам двурушным?!

## Ліст у Ліменьскае лясніцтва

*Віктару Карамазаву*

Крынічнай цішыні вуздэчка
Перапыняла бег і спех.
Там ластаўка віла гняздзечка
Над вушаком —
На зайздрасць стрэх.

Над самым вушаком канторы,
Што туманела тытунём.
А ўночы борам пахлі зоры
І поплаў — перагрэтым днём.

Яшчэ дагэтуль ганаруся,
Што быў прывечаны ўсур'ёз,
Што мой берэт уважыў бусел
І да сябе ў гняздо занёс.

Відаць, цыбатым бусляняткам
Быў даспадобы мой берэт,
Бо са сваім насатым татам
Мне доўга ляскаталі ўслед.

Як падала —
Зялёнай знічцы
Зязюльчын мох я сам
Паслаў...
Паклон,
Ліменьскае лясніцтва,
Тваім лясам,
Тваім буслам!

## Самыя мірныя штаты

Злучаныя шаты дужых крон,
Што ў нябёсы ўзносіць бор зялёны,
Штаты,
Дзе на сукаваты трон
Прэтэндуюць мокрыя вароны.
Злучаныя,
Каб даваць адпор
Навальніцы,
Што пагрозай свішча,
Дзе гатоў расчулены тапор
Даць на адсячэнне тапарышча.
Б'ецца, як агеньчык малады,
Праз завею ў шыбу леснічоўкі
Ззяблая сінічка ў халады,
Зорку золку клічучы ў сяброўкі.
Тут, як трэба, і зямную вось
Могуць паднавіць любой лясінай.
Тут з рагоў карону носіць лось,
Непагрэшны ў вернасці ласінай.
Злучаныя штаты добрых дрэў,
Дзе вартаўнікам спакою поўнік,
Дзе ў стагоддзях
Смерць сваю сустрэў
Не адзін прыблудны заваёўнік.

## Бярэзнічак

Дымнага ўзлеску хвартух пярэсценькі,
Тканы завеямі ў тры ніты,
Часты, непакручасты бярэзнічак,
Страшна на «ты» да тваёй белаты.
Быць між зімой і вясною пасрэднікам
Выпаў табе ад лясоў давер.
Чуеш ты сцюжу кожным карэньчыкам,
Кожнай галінкай — цемры ашчэр.
У маладосці цеплішся свечкамі,
А пасталеўшы — ідзеш на крыжы.
Погарбаў куфры з глухімі вечкамі
Светла вартуеш,
Як скарб чужы...

## Гаспадары

Зямля трымалася на трох кітах,
Ды кітабойныя флатыліі
Даверлівых кітоў пабілі — і
Яшчэ ніжэй прагнуўся неба дах.

І небасхіл трымалі да пары
Атланты,
Ды ў адно з Атлантамі
І міфы сталі кватарантамі —
Іх выперлі гаспадары.

Цяпер Зямлю і небасхіл стары,
Здавалася б,
Трымаць няма каму.
Даволі, людзі, быць прымакамі,
Трымайце — раз гаспадары!

## Дзьмухавец

Нетрывалы вехцік дзьмухаўца
Затрымацца думае на ветры,
І яму надзея шэпча:
— Вер ты
У сваю жывучасць да канца.

Толькі спахмурнеў пагляд нябёс,
Толькі ў ветра лопнула цярпенне,—
І панёс
Незразумелы лёс
Дзьмухаўцова лёгкае насенне.

Вольна парашуцікі лятуць,
І цяпер сцяблу галець штодзённа
Градуснікам, што згубіў іртуць,
І самому робіцца сцюдзёна.

Як няпэўны вехцік дзьмухаўца,
І Зямля трымаецца ў Сусвеце,
Пад хмурын спагадлівай павеццю
Рада руні Млечнага Жытца.

Верыць у жывучасць да канца,
Хоць даўно на волі страх раскуты.
І перасцярогі парашуты
Блізяцца да вечнага сяўца,

Хто паспеў пасеяць цішыню,
З жалудоў узгадаваў дубровы.
А сявец,
Нібыта ўпершыню,
Слухае знадзеяныя словы.

## Страх

Самае невераемнае збудзецца —
Сумленне прабудзіцца,
Дрэвы зноў да сябе
Прымуць сухую плаху,
Ды чалавецтва
Не скора пазбудзецца
Страху.
Век
Маторна-
турбінны,
А страх
Пячорна-
глыбінны.
Век
Ракетна-
арбітны,
А страх
Беспрасветна-
першабытны.
Якую б мы апранаху
Ні прымяралі страху,
Ён голы,
Як бліскавіца,
Змушае долу
Схіліцца.
У страха вялікія вочы,
У страха доўгія ногі.
Ён бачыць і ўдзень, і ўночы,
Усе абабягае дарогі.

Пакуль мы яго не зможам,
Людзьмі называцца
Не зможам!

## Суладнасць

*Юрыю Тууліку*

Нязніклай мовай рыцары і рытары
Як па камандзе:
«Шэрагі падвой!»,
Эстонскія падвоеныя літары
Стаяць на ветравой перадавой.

Падвоіцца,
Застацца,
Выжыць,
Выстаяць —
Закон няменню выклікам
Адзін.
Сугуччы золкай мовы наравістыя,
Як эсты —
Астравамі між ільдзін.

У два цапы, ў дзве рэдзі —
Продкам доліла.
Не заглынуцца прорвай астравы.
Нябёсы падвышае рэха доламі,
Журбою радасць свецяць журавы.

Марозу крэкчацца і мору стогнецца —
У кожным гуку водгулле вякоў.
Падвойваюцца літары эстонскія,
Каб больш было
Надзейных сваякоў!

## У выгнанні

Паплыла рэчка, слязінкай бліснуўшы
З роднай зямелькі...

*Арцём Вярыга-Дарэўскі*

А для каго пісаць,
Калі не чуеш мовы,
Калі прыціхла ўсё
У спуджаным бары?
І совы мудрых слоў
Свае вартуюць сховы,
Маўчаць табе ў спіну
У сквапным гушчары.

А ты сябе вяртай
Хоць снамі на радзіму,
Дзе рогі веташка
Варушаць мурагі,
І ў думках рады будзь
З забытай хаты дыму.
Вяртайся як ратай
На вечныя кругі.

Сіберная Сібір,
Багатая на сівер,
Халодную думу
Трымае ў галаве.
Згадай далёкі жвір,
Самотай веру вывер,
Да Кубліч твой радок
Дзвіною даплыве...

* * *

На вачах усяго кварталу
Распранаюць хату памалу.
Абдзіраюць сукню шалёўкі,
Пакамечыўшы складкі абноўкі,
З-за якой, было, шальмавалі,
Покуль ладзілі, шалявалі,
І шчырэлі, і махлявалі,
Фарбай радаснай малявалі,
Фарбай купленаю і крадзенай
Маладуху штодуху парадзілі.
Не такая старая ўжо хата,
Толькі месца ёй малавата
Неўпрыкметку з гадамі стала
За шырокай спіной у квартала.
Выбіраюць — ён больш недарэчы —
Мох, што хаце пакаціў плечы.
Б'юцца шыбінак завушніцы —
Заранiцам у чым адбіцца?
Выцясняючы камянямі,
Горад на камяніцы мяняе
Хаты, гонячы іх на ўскраіны,
Дзе ім рай часовы параены.
Кран пад'ёмны чакае хаты.
Крук, як той маладзік рагаты,
Што жалезным стаўся знянацку,
Каб да бёрнаў ніжэй схінацца...

## Ганне Рыгораўне Быкавай

Як апошняя завіруха,
Маці белая-белая,
І з завейнымі скронямі сын.
Словы падаюць глуха-глуха.
Цішыню аўдавелую
Захлынае палын-успамін.

Як у птушачкі лапкі, рукі,
Што люлялі ў паланачках,
Спавівалі сынка Васілька.
Ў дзверы страху адгрукалі грукі,
Адпрасіліся ў наначкі.
Абмялела тугі рака.

І дзесяты дзесятак ціха
Размяняла старэнніца,
Неўзнаку праляцелі гады.
Нажылася пад дахам ліха —
Хай з ім сын не сустрэнецца! —
І пад знакам бяды.

З хаты выйшла да сына,
Села ў прызбе на прыгарбе.
Мураву ёй паслала зямля,
Каля печы пагнула спіну,
Ды жарынкаю выграбла
Зорку долі свайго Васіля!

# Перад блакадай

Пагоны здзёрлі з палкоўніка,
Разувалі спакойна,
Лапці ўзамен далі.
Боты былі навейшыя,
Боты былі цалейшыя,
Хромавыя былі.
Потым палкоўніка вешалі.
Як леташні ліст алешыны
У перазяблым галлі,
Павіс ён на перакладзіне —
Паміж двух слупоў прыладзілі
Наспех партызаны яе.
Дасюль успаміны мае
Вяртаюцца ў хату цесную,
Часовую хату сумесную —
Ажно дзве сям'і жыло.
А маме шкада было
Таго нямчурыну зацятага,
Знянацку ў палон узятага
Разведчыкам Васілём.
Пакуль ён мяняўся з разведчыкам
Абуткам,
Дымліва свежага
Малака наліла з каптуром;
Мама ў снарадную конаўку
І падала палкоўніку.
А ён прыгаворваў: — Гут!
У лапаць нагу ўсунуўшы,
Глядзеў, дзе святыя сумныя
Займалі пачэсны кут.
А мы, малеча сярдзітая,
Вачэй халоднымі дзідамі
Калолі балюча: —Капут!

## Прыцемак

Каза сама свой валачэ ланцуг,
Старая — мех з падвялаю травою.
Спыняюцца,
Каб перавесці дух.
Жывуць удзвюх
Турботаю жывою.

## Бліжэй

Адчуваю перапады ціску
І капрызлівай пагоды змены,
Разумею здалеку і зблізку
Ноч рабінавую,
Дзень праменны.

Мне баліць ручай
І голасць голля,
Мне вяшчуе цемру вечарніца.
Да зямлі ўсё
Бліжуся паволі,
Каб, нарэшце,
Ёй самой зрабіцца...

# Зялёная цішыня

Учарашні дождж спадае з лісця
Па чарзе
На ніжнія лісты.
Пад галінай схіленай схіліся —
І ад мітусні адыдзеш ты.

Цішыня не любіць мітусіцца,
Рупіцца і цэдзіць спакваля
Ціхі змрок праз травяное сітца,
Што прайшоў праз рэшата галля.

Жаўранка ў яго парывах крозных
Тушыць гаспадарскі ўзлёт чмяля.
Зеляніну на нячутных кроснах
Тчэ абновай дню штодня зямля.

Ці абнова, ці зялёны саван
Засцілае збеглыя сляды?
А ў гняздзе жыхар
Зялёны самы —
Плача жаўтароцік без яды.

## Слова

Кожны дзень
я пішу лісты,
Кожны дзень
я даю тэлеграмы,
Кожны дзень
я званю з нематы,
Я званю ў немату —
да мамы.

Я не маю адраса,
Я не маю нумару,
Я не маю адказу.
Маладзік мяняецца квадрамі,
Тэлеграф спяшацца не думае.
Ва ўсіх турбот да адказу.

Кожны дзень
я сябе віню,
Кожны дзень
я самотны самы,
Кожны дзень
я зайздрошчу дню,
Дзе жыло яшчэ
слова м а м а.

Слова было
канкрэтнае,
Слова было
ўсмешлівае,
Слова было
адно.
Рукамі пакрэплымі
Кашулі сушыць развешвала,
Бяліла радасці палатно.

Я спазніўся на дзень адзін,
Каб пачуць
апошняе слова.
І дагэтуль
гарыць палын,
І дасюль
на душы зімова.

Пакіну сум
на зіму я,
Пакуль туга пералетуе.
А дзе пачую,
А дзе вазьму я
Слова
гэтае?!

* * *

Восеньскі Віцебск,
Скразняковы, негаманкі.
Ад хмар заімжэлых
Нізкае неба шэрае.
Дзвюх зорак Героя
Гарачыя лісткі
Гараць на грудзях
Пятра Машэрава.

Дзве іскрынкі
Партызанскіх кастроў
Не тухнуць
Ад перазяблых вятроў...

* * *

Я старавечны, бо люблю
Дагэтуль працу і зямлю,
І ў век жалезны НТР
Мне дораг скокам
Кожны звер,
Гнілушка кропкаю святла
І птушка помахам крыла,
Ігрушыны калючы сук,
Балючай мовы золкі гук.
І старавечную зямлю
Маю знямогу ўзяць
Малю.

* * *

— Ратуйце нашы душы! —
Нябёсы моліць пастыр.
— Ратуйце нашы тушы!—
Раве мяснік мардасты.
— Ратуйце нашы сушы!—
Астравіцяне ў наступ...
Знікаюць нашы сушы.
Змаўкаюць нашы душы.

## Сораму час

Прыходзіць ён да кожнага з нас,
Як паратунак хвораму,
У час ці, познячыся якраз,
Час сораму.

Чакаюць яго — паспешна ідзе,
І не чакаюць — ён клымае.
Ён ведае ўсё, што і як, і дзе
На строме, ў проламе, ў вымаі.

Ён шчодра сорам вяртае ўсім,
Хто ў славе і хто зняважыўся,
За тое, што не зрабіў зусім
І што ты зрабіць наважыўся.

Ідзе па перагарэлай расе,
Глядзіць цвярозымі зорамі,
Сцюдзёныя лаўры ілбам нясе
Час сораму.

## Трыпціх гары Чарнечай

### 1

Каб воблік свой перадаць вякам,
Дакладны, без лішняга грыму,
Тарас аўтапартрэты пісаў,
Бо не разлічваў ні на ахранку,
Ні на фатаграфію —вопыту мала
Было і ў адной і ў другой тады,
І дасягненні навук пазнейшых
Да іх на валах пазніліся.

Адно што ўтрымаць змагла
Пасмяротная маска —
Паўслязіны на правым воку...
Акадэмік жывапісу Шаўчэнка
Не давяраў багамазам наступным,
Бо ведаў, і з добрых намераў
Такога могуць адмаляваць,
Што родныя за свайго не прызнаюць.

А паэта Тараса Шаўчэнку
Чакалі на волі таполі:
Кожная, як пяро,
Абмакнутае ў родную глебу,
Каб выкрасаў маланкі
Былы прыгонны на аблачынах,
Калі на паперы пісаць забаронена.

Таполі па ўсёй Украіне
Чакаюць...

## 2

### Каля партрэта Карла Брулова

У чым яна,
Прыгоннага правіна?
Як брагу славы
Разліваць каўшу?
Ці доўга
Выкупляцьме Украіна
Душу Тараса
І сваю душу?..

## 3

Волен он Шевченко избрать себе род
жизни, какой он сам пожелает...

*З Вольнай Т. Р. Шаўчэнкі*

Рабіў малюнкі, чарцяжы
Хаціны на гары Чарнечай,
Але не думаў аб крыжы,
Аб дамавіне вузкаплечай.

Ды быў прывечаны Тарас
Кітайкай крытаю хацінай
Там,
Дзе хацеў дажыць якраз,
З хваробай —
Вернаю адзінай.

* * *

Вопраткай адораныяноскай,
З гарадскіх плячэй
Сваіх сыноў,
У глухіх хусцінах тумаНОЎ,
Перагукваюцца вёска з вёскай.

Выцер сенакос зялёны пот,
Вецер сена вялае варушыць.
Смягла ў печах трэскаецца под.
І ніхто спакою не парушыць.

Вёскам кепска спіцца па начах,
Рукі сслаблі,
Ногі ў росах ззяблі.
Як не ў кожнай хаты на плячах
Хібяцца тэлеантэнаў граблі.

Лёгка граблі гэтыя стаяць,
Імі варушыць лацвей аблокі!
І маўчыць, схаваўшыся ад спёкі,
У кустах, бы ў копах,
Сенажаць.

## Прыкметы

— Халерынка,
Вар'яцінка,
Сабачынка
Павінна быць у позірку, ў радку,—
Тлумачыў у гуморы
Пімен Панчанка,
Які пабачыў досыць на вяку.

Паэзія — капрызная, халерная —
Вяльможны гнеў пакліча на дуэль.
Скіроўваў кулю помсты
Трапна Лермантаў,
Купала
Слова ўзважваў за камель.

Калі сабак навешваюць,
Адгаўквацца
Даводзіцца
І выць, як дапякуць.
У класікаў традыцыя багатая
Трываласці да шчасця, да пакут.

Нам засталася спадчына —
Не спадчынка!
Вісіць прымоўкла
Стрэльба на цвіку,—
Дадаў палагаднелы
Пімен Панчанка
Неўтаймаванай думцы пад руку.

* * *

Забытыя хутары —
Этымалагічныя слоўнікі,
Паз'ехалі гаспадары,
А словы, дасюль не злоўленыя,
Выжыўшы ў ліхалецццях,
Гнездзяцца ў пунях, клецях
Ластаўкамі лёгкакрылымі
У кожным пpоламе, выламе.
Стрыгуць цішыню стрыжамі
Над стрэхамі, над крыжамі.
Сняжэюць словы, і росяцца,
І ў сэрцы пагрэцца просяцца...

# Маладзічком

Спіць яшчэ хмурына дажджавая,
Што прамые да касцей зямлю.
Мне касаваротку дашывае
Мама,
Покуль я салодка сплю.

Сцежка выбегла за плот,
Чакае,
Каб са мной падацца бальшаком.
Прапануе вяз ля хаты з краю
Ахінуць зялёным башлыком...

З-за плячэй гадоў
Ён потым гляне,
Сум,
І не адступіцца, відаць.
Каб пасля падаць руку вяртанню,
Трэба развітанне прывітаць...

Лёг спакой на халадок атавы,
Выпусціў трывогу з рукаўцоў.
Маладзік прарэзаўся танклявы,
Быццам малады Міхась Стральцоў...

* * *

Столькі я парастраціў
І дзён, і начэй
На цябе,
А калі разабрацца,
Неспакой для душы
І святло для вачэй
Я знайшоў.
Стала мулкая ношка
Мякчэй.
Не была, значыць,
Марнаю праца.



У ціхай восені душа
Даверам познім залатая.
Ліст
Пенай з хмельнага каўша
На роздум вечара злятае:

З бярозы —
Ссох на сівярах,
З асіны —
Надрыжэўся ўволю,
З рабіны —
Ад гаркоты ўсмяг,
З ляшчыны —
Прасвятлеў ад болю.

Залоцячы свой кожны след,
Да нас неразгаданым кумам
Падлашчыцца ў душу сусед,
Які завецца
Светлым сумам.
Пасля,—
Замена спарыша,
Ён стане двайнікам адчаю.
А ціхай восені душа
Яшчэ даверам залачае...

# Язык

Жарт вераб'ём гарэзлівым
Загадвае з падстрэшша:
За белым бярэзнічкам
Талалай брэша...

З сябе самога цвеліцца
Жывое слова.
Распальвае цяпельца
Пыхлівая салома.

А слова ў хмару рэзнецца
І зноў на дол пеша.
Рудзей,
Радзей бярэзнічак,
А талалай брэша...

## Здарожаны посах

Адной да скону верыў ісціне —
Не паддавацца злой бядзе.
І не пятляў кружнымі выйсцямі,
А кій дадому прывядзе!

Рукамі шчырасць жару выверыў,
Пачуў глухую скаргу дрэў,
І верш,
Што з ім асіп на сіверы,
За пазухай, як пеўня, грэў.

Не затрымаліся гадоў плыты,
І засталіся там, дзе скруха ные,
У саркафагах вечнай мерзлаты
Яго сябры навечна маладыя.

Верш праляцеў шляхамі выраяў,
Вярнуўшыся пад родны дах.
Хоць посах свой
Вандроўнік выраніў,
Вясёла здарожаны,
Чытае памяць па складах:
Мі-ко-ла Хве-да-ро-віч.

## Радкі на добры настрой

*Яўгеніі Янішчыц*

Паэзія — планет кружэнне
Вакол імя, што богу сніцца.
Планет арбіты
Блытай,
Жэня,
Ты ж — з Велясніцы
Чараўніца!

Паэтам быў таксама
Велес —
Спрыяў руну, пяру жар-птушкі.
Каб доўга песні не гавелі —
Слаў спех да бабкі-павітушкі.
Яна прымала ў песні роды.
Купала немаўля ў любістку.
На долы, на лясы, на воды
Залочаную клала рыску.

З кахання працякла крыніца —
Пяе зажурана Палессе.
Каб ля яе віне вініцца,
Журбе замроіцца балесна.

Спыніўся Велес на папасе,
Каб не забылася мясціна,
Дзе песня і твая
Па часе
Сама ўзысці была павінна!

# Рух

Не пазайздросціш ганчаку,
Зайцу — тым болей.
На ўсім бягу, на ўсім скаку
Па голым полі

Не шкадаваць ні лап, ні скаб,
Як вучыць звычай,
Вылузвацца са скуры,
каб
Не стаць здабычай.

Паспачуваеш шараку,
Што стане белым,
На скразняку,
па шарпаку
Сагрэты бегам.

Хай брэхам поўніцца абшар,
Шалёным болем.
Ганчак ляціць,
каб гаспадар
Вярнуўся з полем.

Спадае пух
ад завірух
На рунь густую.
Рух,
як выратавальны круг,
Іх, двух,
ратуе!

## На маладую завею

*Міхасю Стральцову*

Пакуль мы можам перагукнуцца,
Давай даверымся галасам,
Каб, як начлежнік,
Мог голас сам
Дымком самотнасці папярхнуцца.

Сябе дапальвалі мы хутчэй
Каля паспешлівага цяпельца,
Каб потым выцягнуць,
Як тапельца,
Давер забыты сваіх вачэй.

Сум у самоты — ахвочы лёкай,
Прагнаць усмешкай яго дазволь,
Каб нашай радасці
Светлы боль
Над намі віўся смугою лёгкай.

# Маці прыехала

Да сябра старая маці прыехала
Як восень пазная з грыбамі, з арэхамі,
З пагоркамі магілёўскімі,
З бярэзнічкамі, ляскамі,
Дзе смех Міхаськаў дагэтуль галёкае,
Вавёрка пацехі арэхі лускае.

Прыехала Каляда багатая,
Ацішаная зіма,
Пакункі, клумкі вяроўкай, шпагатам
Папераvязвала сама.

Маці глядзіць, як жывуць мінчане,
А ўсё заўважае, а ўсё прыкмячае,
Як пража сынавых дзён прадзецца,
Чаму, калі прыйдзецца, спаць кладзецца,
Калі абедае, жывот ці ведае,
Чаму тут пасцілкі завуцца пледамі?

І ўвішней дзён каляндар гартаецца,
І сын неўпрыкметкі туды вяртаецца,
Дзе след яго босы ўспамінам казычыцца,
Дзе добрага многа нябёсамі зычыцца.

Я помню, як з ліўнямі і дажджамі
Ушацкімі
Мама мая прыязджала,
І мне рабілася ўмомант светла,
І мова са мной размаўляла ветла.
Я сябра наведаць хачу,
А баюся,
Што ў скрусе
З дарогі саб'юся,
Нібы ў завірусе...

# Трава горнай курапаткі

*Сіявушу Мамедзадэ*

Да вечара дамчымся ў рай
У чайхане без перасадкі.
Духмяніцца спякотны чай
Травою горнай курапаткі.
Клякоча вар:
— Кеклік-ату!
Дык гэта ж той,
Што ля дарожкі
Захмеліць пахам за вярсту,
Мой чабарок,
Крывыя ножкі.

Яго не курапаткі з гор —
Пасуць спагадлівыя ўзмежкі:
Гарыць вуголліста чабор,
Каб не зблукалі ў змроку
Сцежкі.

А сцежкі сыдуцца ў адну,
Што кінецца
У ногі ганку —
Ад сну
Абудзіць даўніну,
Пяяць папросіць калыханку,
Каб не аглухла ў гуле:

Пайшоў кот у дулі,
Памарозіў лапкі —
Ўскочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Дзе катку падзецца?

Дагэтуль мне душа баліць,
Што не магу бядзе параіць.

Будзем лазню паліць,
Катку лапкі парыць,
Катку хвосцік правіць...

Чай чабаровы забяліць
І адламаць акраец
Матуля дома можа зноў
Свайму здарожанаму сыну,
Вярнуўшыся ў краіну сноў
Ускалыханаму ўспаміну.

Кеклік-ату,
Кеклік-ату —
Ці гэта бусел косы клепіць,
Ці ластаўка дамоўку лепіць,
Ці вырай журыцца:
Ляту-у-у...

Хлякоча бульба ў чыгуне
Ці лівень палівае градкі?
Травою горнай курапаткі —
Чаборам
Пахне ў чайхане!



Душа не павінна за плоць
Ці, кажучы проста, за цела.
У цела душа заляцела,
Каб цела ласкава калоць,

Як ластаўка вострым крылом,
Акрытае хмарамі неба,
Хай болем сплывае ганеба,
Як грэшнасць вады ў крыгалом!

І цела трымае душу,
Што ластаўку ў лівень падстрэшак.
Спакуса пакажа арэшак,
І цвеліцца пал: «Раскушу!»

Расколецца грэху арэх,
І цешыцца ласкаю цела.
Сумуе душа ўсірацела,
Старцоўскі рыхтуючы мех,

Каб рушыць у прочкі хутчэй,
Пакінуўшы цела харомы,
Плысці, прычакаўшы паромы,
На зоры вачыстых начэй.

## Коні

А вывезлі столькі эпох
І столькі аблог узаралі,
Што чуў недзе ў небе
Бог,
Як пахла ралля сырая.

Хацелася быць на кані
І ратніку і аратаю.
Чакалі распрэжана дні,
Хто іхні галоп забрытае.

Імчаліся наўскапыта
Вякі —
І адсталі коні.
— Дзе коннікі? —
Юр'я спытаў,
Не злезшы з каня на іконе.

Вязуць скакуноў,
Цягуноў,
Як некалі пеўня лісіца,
Машыны.
Няма цыганоў,
Украсці ці хоць прыцаніцца.

А як сіўка-бурка на смак,
Абед чарнабурка чакае.
І грыва ў дзядоўі наўзмах
Да траў прыдарожных сцякае.
Не трэба натугі ляза,
Зацятасць імгненная ў тока.
І падае з конскага вока
Цяжкая ад болю
Сляза.

* * *

І хочацца ў край малады,
Дзе гады
Да сэрца пяшчоту гарнулі.
Каб з рэчкі паўнюткія суды вады
Прынесці ў нядзельнай кашулі.

Каромысел будзе ляжаць на плячах
Цяжкімі рукамі расстання,
І неба ў вядзерцах,
Як сум у вачах
Матулі,—
Не хутка растане.

## Лясная сцяжынка

Яшчэ зімовай стаць не паспела,
Ад палага лісту глухая.
Яшчэ пад снегам сунічніку смела,
І лес на пагоду ўздыхае.

Слядам яшчэ чорна ў мурзатым снезе,
Крату яшчэ лёгка арэцца.
Травінка яшчэ па інерцыі лезе
З надзеяй святлом адагрэцца.

Вясной
Даланю заказычуць карэнні,
І ў поле ўцячэ ад смеху
Лясная сцяжына,
Дзе раптам сустрэне
Сваё русабосае рэха...

* * *

Хто гэта спявае?
Птушка.
Хто гэта гамоніць?
Дрэва.
Хто гэта шуміць?
Трава.

Іхнія найменні ўсе забылі —
Птушак,
Дрэў,
Утуманелых траў.
Мы прымаем выдумкі за былі,
Іншых помніць нам не пад нараў.

Тых няма, што як сям'ёй адною
З пушчамі, з разлогамі жылі.
Сталі разам з роднай стараною
Пястачкай балючае зямлі.

Памяць продкаў даўнасцю жывая.
Кожнаму наступніку знава
Птушка спаткаемнасці спявае,
Дол знямогі
Зяляніць трава.

# Даніна

На даніну з садоў і гародаў
Падняўшы тарыф,
Мы перавозім у горад вёску
Авоськамі або вязкамі
І па-маладому шчодра
Надзяляем старых
Правамі трывалымі
І канкрэтнымі абавязкамі.

Даём ім магчымасць поўную
Зямлю любіць да труны
І ў ахвоту рабіць,
Пакуль у дугу не сагнуліся.
Быць фарпостамі мовы,
Скарбонкамі даўніны,
Звацца Нупрэямі і Тумашамі,
Праксэдамі і Ганулямі.

А самі хутчэй наўскасы
Ад расы,
Ад раллі,
Ад касы.
Мы розумам спрытныя,
Ростам высочанькія.
І шумім на асфальце бадзёра,
Як тыя лясы
З каранямі сухімі,
Са ствaламі падсочанымі.



Не люблю дзяльбы на пакаленні
І абмеркавання пакелейна
Той чаргі па славу,
Па граніт.
Не азяблі б і не пакалелі
Душы,
Як аддзелы бакалеі,
Да канца спажыўшы дабрабыт.

Не люблю мальбы да пакалення,
Марнага спялення,
Спапялення,
Складвання ў цяжкія штабялі
Змоўклых аднадумцаў,
Як палення...
Хоць агню баяцца,
А смыленне
Спосабам прыстойнасці знайшлі.

Мы — зямлі жывучае насенне,
Прагнем абнаўлення,
Узнясення,
Зазямлення ў радасць,
Гнеў,
Мілосць.
Ёсць красой і працай наталенне,
Ёсць старэнне душ,
І ёсць сталенне,
І праверка на сумленне
Ёсць!

## Вёска

А вёска думае паволі,
Глядзіць спаважна з-пад страхі.
І ціха грэюцца півоні
Каля няполанай ляхі.

Слязой
Сцяжыну смутку сырым,
Бяром у сведкі зглухлы сад.
Мы часта вёсцы
Масла з сырам
Вяртаем з горада назад.

А вёска думае паволі,
Глядзіць на збеглыя шляхі.
На вока важыць шчопаць долі,
Вудоўі мерыць на кархі.

Прыкідвае,
Мазгуе,
Кеміць,
Мяркуе,
Што схавана дзе.
У дзверы часу пальцы шчэміць
І думку ўласную прадзе.

То нарачонкай, то ўдавою,
То ў перунах, то ў цішыні
Жыве,
Вяртаючы паволі
На выган вечны нашы дні.

* * *

Не наталяй зайздросліва́сць валля.
Луг неспатольнасці
Пакінь для ўкосаў.
Бо цела грэшнае, як і зямля.
Душа, яна —
Заложніца нябёсаў.
Не падстаўляй зайздроснасці ляўшу.
Твой дзень,
Як светлацень,
Перапялёсы,
Дол моўчкі прыме цела,
А душу
Ці схочуць за сваю
Прызнаць нябёсы?



Трыпутнік —
Пасынак дарог —
Праб'ецца праз нямыя пліты,
Каб да зялёнае эліты
Вандроўнік далучыцца мог.

Каб сын прыбіўся на парог,
Прайшоўшы вернасці іспыты,
Каб адшукаў свой след забыты,—
Трыпутнік на сцяжынку лёг.

Маладзіка зялёны рог
Тугой вяртання апавіты,
Нібыта ў небе
Самавіты
Трыпутнік —
Пасынак дарог.



Над лесам поўня палае,
А ў прыгарадным вагоне
Спытала раптам малая:
— Мама, а дзе сягоння?

І мама тлумачыць чула
У абыякавым гудзе,
Што сёння амаль мінула,
А раніцай заўтра будзе.

Што ў заўтра не будзе сягоння...
Дачушка не разумее,
Што дні ў нястрымнай пагоні
Рады сваёй замене.

Нямога змяркання знямога
Спакойна спіць на адхоне.
Міжволі сябе самога
Пытаю:
— А дзе сягоння?

## Прызнанне

Як уплывовы дзядзька
Сваякоў,
Я словы перацягваю
Ушацкія
У стольны Мінск
Па лініі радкоў.
Няхай жа мне
Сімпатыі сваяцкія
Даруюць чытачы.
Сваю радню,
Як дабрыню,
Я ўпарта перацягваю.
Падпеаразаўшыся
Зямляцкай дзягаю,
Былы давер
Ад сцюжы бараню.
І, каўняры наставіўшы,
Са мной
Ідуць уполеч
Словы наравістыя.
І ўшацкі край,
Што ў непагадзі выстаяў,
Як шчыт, надзейна-родны
За спіной!



Як чорны хлеб,
Свой чорны дзень цані,
Бо чорным днём
Святло ідаць выяўней.
Сваю бяду ні на якім кані
Не абагнаць —
Даверся праўдзе даўняй.

У змрочнай паняверцы не марней,
Чарнее дол,
Пакуль не заснягае.
Агонь зырчэйшы,
Чым вуга́ль чарней.
Яснейшы далягляд за саснякамі.

Асядуць перагорклыя пласты,
Душа паласкавее, адбалеўшы.
Ты атрасеш лахмонне чарнаты,
Свет пасвятлее,
Стане дзень бялейшы.



Нялёгка несці крыж сумлення —
Ён быў цяжкі
Ва ўсе вякі! —
Хай у рамёны, што самлелі,
Яшчэ ўпіваюцца цвікі.

Нібы сваю, бяду чужую
Цягні,
Як праўдзе не чужы.
Няхай цябе мана крыжуе,
Увагай крыўды даражы.

Ты гнеў,
Як жмук гаючых траў, да
Ран неастылых прыкладзі ямчэй.
Калі зірне калюча праўда,
Глядзі —
І не адводзь вачэй!

## Вяртанне

Паддаўшыся агульнаму настрою,
У прымаразкі, спёку, халады,
Пакінуўшы атойбішча старое,
Імкнуць звяры і птушкі ў гарады.
Нясуцца ў гарадскіх затоках
Качкі,
У гастраном заглядваюць ласі,
Вавёркі прывыкаюць да падачкі,
Чакаюць, што ім з далані дасі.

А трактары, камбайны —
Ў вёску, ў вёску,
Дзе для сталёвых душ
Надзейны сховў.
І коску некляпаную,
Як коску,
Сціраюць
На балонні паплавоў.

Апошняе стагоддзе любіць рэтра
І куфар адчыняе зноў і зноў.
Вяртанне да зямлі,
Вады,
Паветра
Са смогава-бензінных туманоў.

Пад старасць
Век надвор'е адчувае,
На перамену ные, як зямля,
Што ўсё яшчэ жывым жыццём жывая,
Але ці зможа
Ўсё пачаць з нуля.

* * *

Мы — тыя ракаўкі,
                    ў якіх дасюль
Гул
    акіянскай мовы
                    не змаўкае.
Бо продкі ўбераглі
                    ад стрэл, ад куль,
Як з берагамі,
                    акіян з вякамі.
Пакуль мы ёсць
                    у зменлівым жыцці,
Пакуль звяраем
                    думак ход
                              па ходу
Надзеі,
        будзе акіян гусці
На непагадзь,
                    вяшчуючы пагоду.

# З гадамі

Дагэтуль смутак галадае,
Як змрок,
Не знашчаны святлом.
Часцей прыгадваю з гадамі,
Як ела мама.

За сталом
Яна падоўгу не сядзела,
А несла да стала,
Была
Каля стала.
Імгла радзела.
Дзень белы
Мыўся дабяла.

А на двары абрыдлы статак
Штодзённай пільніцы
Рыкаў,
Капрызна тузаў за рукаў,
Як той малеча, недастатак.

Падмазкай мазала аладку,
Бо масла згасла,
Малако
Далёка з'ехала.
Букатку
Пякуць спрадвеку па дастатку.
А ці аблуплена яйко,
Лянько чакае.
Жартам ласым
Заскварваўся нішчымны дым,
Што з місы віўся самапасам,
І смех быў з жыватом пустым.

— А журавелькі паляцелі,
З сабой палудзень панята,—
Казала мама.
Караценькі,
Як дні, запасы.
Жураўлі
Да нас сініцу слалі ў госці,
Каб зябла гэтак, як і мы,
Каб скрасіць кропляй прыгажосці
Галоднасць холаду зімы.

Дагнаць хацела
Мама лета,
А на бягу ўсё, на хаду.
І толькі смагла —
Помню гэта —
Піла сцюдзёную ваду.
Бо ў прыпары,
Бо на спякоце
Пастушкай,
Жнейкаю,
Касцом
Насмяглася —
Каб кропля ў роце! —
Лёс поўным
Абышоў карцом.

Гады свае бароды
Бела,
Як старцы,
Сушаць на кіях.
Прыпомніць не магу ніяк,
Калі спакойна
Мама ела...

## У віры

Жыцця вясёлы рынак
Штодня вірыць, кіпіць.
Там кожны твой учынак
Стараецца купіць

Старая ведзьма-здрада
Спрадвеку як танней.
А потым будзе рада
Кульнуць, што куль, з саней.

Наліўшы славы брагу,
Бярэ тугу душы,
Гатова за адвагу
Накінуць барышы.

А перакупшчык хітры
Адчай — ганец бяды
Прамовіць: «Вусны вытры!» —
І дасць карэц вады,

Каб ты сухую спёку
Наіўнасці прагнаў,
Не нёс ваду здалёку,
А браў ваду з канаў.

Што рэкамі калісьці
Капрызнымі былі
І ў вернасці кляліся
Даверлівай зямлі,

Ды цінаю і раскай,
Забыўшы на палі,

Як ганьбы мокрай ласкай,
Паціху заплылі.

Жыццё —
Цвярозы рынак:
А як дастаць да зор,
Дзе ўзважаць твой учынак
Сумленне і дакор?



Здзіўленне, застанься са мной
Прытулкам даверу,
Каб ісціна,
Што не сябруе з маной,
Гарчыла, як корань аеру.

Спатоль аблачынаю праліўной,
Спагада, паўдзённую стому.
Але абміні
Той апошняй сасной,
Якой не жадаю нікому.

Пакуль вы перада мною, за мной,
Здзіўленне,
Спагада,—
Душа, як дарога людской гаманой,
Кірмашом суцяшэння багата.



На падворку ціхай школы ўранку
Я скакаў за коніка лягчэй,
Не крануўшы здрадлівую планку,
Бояззю не мружачы вачэй.

А гады ўсё рыску падвышалі,
Я скакаў і закранаў часцей
Планку роспачы
І планку жалю,
Падаў, не шануючы касцей.

Пастаяўшы ў века на прыганку,
Я скачу
Да зорак уваччу.
Стаўлю недасяжлівую планку —
Пераскочыць сам сябе
Хачу!

# Вока Балтыкі

Зрэнка — сінічка вока,
Кажуць здаўна латышы...
Балтыкі вока
Глыбока
Днее ў душы...

Вясны гадзіннік самазаводны
Сінічка гайдае.
Ёй не ляцець за мора, за воды —
На ўзмор'і гадамі.

А голас такі, як ва ўшацкай,
Выліты,
Журбе патурае.
Каб я запомніў: zilite, zilite —
Імя паўтарае.

Смялей пагодзься на небасхіле ты
Бурштынінкай сіняй.
Свой сеннічок з сінім сенам,
Зілітэ,
Узбівай гаспадыняй.

Імя запомню, твой спеў узяў бы,
Туга трапяткая,
Ды недзе дома
Голас азяблы
Мяне ўжо даўно чакае.

## Бяседа

Да часу маючы інтарэс,
Не зачыняючы дзвярэй,
Гаворыць з векам
Зоська Верас,
Як з братам,
Што крыху старэй.

А ў дзверы —
                    госці,
                    госці,
                    госці —
Навіны,
Клопаты,
Лісты
Са сталасці і з маладосці,
З віроў,
Дзе згінулі плыты.

Плыты з купальскімі вянкамі
Плылі з наіўнаю тугой.
І жаўрукамі-шаргункамі
Гады звінелі пад дугой,

Якая ў клопаты ўпрагала,
Каб усміхнуўся край бацькоў.
...Стае маленькага прагалу
Хаціне.
Лес з усіх бакоў.

Тут ляды ночы карчавала,
Цярэбячы дарогу дню,
І ў полі мовы начавала,
Каб слухаць рання цішыню...

Стаяць цярпліва вёдры, кадкі,
Ваду чакаюць са страхі.
Водаправод не ўсватаў хаткі.
Грымоты кашаль б'е сухі.

Затое радасць не скупая!
Вада —
Яна радня слязе.
З лучыны,
Што ўспамін скіпае,
Кош
Кірмашовы смех вязе.

У сасняку гадоў
І цераз
Раку падзей,
          надзей
          і страт
Гаворыць з векам
Зоська Верас
І слухае
Старэйшы брат...

## Феліцыя

Міклашэўская Феліцыя Антонаўна,
Матка хросная мая
(Па-ўшацку — Фэля),
Чарку поўніла, каб злоснікі затонулі,
І піла, каб і зайздроснікі ўхмялелі.

І ў гарод, нібы ў касцёл,
Ішла святочная.
Сын загінуў.
Муж памёр.
Не прышукаўся зяць.
Жартавала,
Хоць канцы з канцамі сточвала:
— Ёсць, было, і ведаю,
Адкуль узяць!

Бражку гнала,
Не давала ёй адстояцца,
Субяседніца,
Спагадніца,
Застольніца:
    Не пі куба да Якуба
    Ані да Міхала.
    Ані ты, ані я —
    Кунпанія цала.

Быццам нітку бабаўняную з ваўнянаю,
Слова польскае з ушацкім
                                        перасуквала.
Модлы ціхія
З паганскай песняй Янавай
Перамешвала,
Частушкай перагуквала.

Выхадзіла пані Яні,
Танцавала вальцы,
Цалавала пані Яні
Пану Яну ў пальцы.

І ражкі бялюткай хусткі ў смеху трэсліся,
На вузельчыкі пад барадой завязанай.
І гасцінца у хусцінцы несла хрэсніку.
Не сварылася ні з крыўдай, ні з абразаю.

Урачыста-засмучоная,
Як радаўніца,
Велікодна-захмялелая,
Як раніца,
Нагарбелася над лехамі, над кроснамі
Кшчоная няхітрай песняй
Матка хросная.

## Вуліца бацькі

Вольга, дачка Васілёва,
Па Салігорску ідзе
Новай вуліцаю Казлова,
Нібыта школьніцай кагадзе.

Вуліца генерала лясного
Брала пачатак
З патайных, лясных
Сцежак,
Дзе Перамога
Гаварыць прывыкла ўслых.
Там,
Дзе драбінка солі
Пераважвала пуды.

Як маладзела тады
Наваколле
Ад партызанскай хады!

Вуліца прэзідэнта
Рэспублікі-партызанкі
Тут,
Дзе вырывала цярплівасць дэнка
У таўстарэбрай кадзі пакут.

Маем сёння соль і да солі,
Як у газетах пішуць.
Зірні —
Вольга Казлова
Ідзе паволі
Вуліцай бацькі
У новыя дні.

Горад узнік,
Каб мог і мурожна,
І намалотна
Штодзень наш расці.
Гэта адказна,
Гэта трывожна —
Вуліцай бацькі
Ісці па жыцці.

Шчырніцай рупнай роднага слова,
Што не загіне нідзе,
Вольга, дачка Васілёва,
Вуліцай Васіля Казлова,
Вуліцай бацькі ідзе.

## Нябесны гатэль

У гасцініцы аэрафлоту,
Дзе запоўнены месцы ўсе,
Днём і ўночы тваю ахвоту
Быць у небе
Гул узнясе.

У зямным караван-сараі
Дрэмлюць драмадэры нябёс.
Ашхабад маторнаму граю
Давярацъ пачынае лёс.

І стаяць на прывязі АНы,
І разгульваюць ішакі.
На гарбах трымаюць барханы
Небасхіл, ад вякоў цяжкі.

Самалёт узлятае —
Шыбы
У гатэлі ўзлётна дрыжаць.
Ранак хмарку кіруе,
Нібы
З рослым зернем дажджу
Дырыжабль.

І падушка — як аблачына.
Ложак —
Як самалёт-кілім.
Сны дасужымі дужа вачыма
Тут цікуюць за ўзлётам тваім.

Зноў паверыш старой прыкмеце,
Што расцеш,— раз ляціш у сне.
Самалётам ляціць дасвецце.
Скача прыцемак на скакуне.

Раскладушкам ламаюць спіны,
Гэтак трушчаць,
Як той сушняк,
Каб у полымя шуму кінуць —
Хай пагрэецца цішыня!
Небам,
Авіяцыйным бензінам
Пахнуць сцены і коўдры тут.
Паначуеш ноч —
Успамінам
Свой паўторыш сюды маршрут...

# Партрэт Уладзіміра Караткевіча ў унтах з двума сабакамі

(Каралішчавічы, 1965 год)

Прысмірэлі дзве калматыя гурбіны
на нагах,
Пабурэлі, як запыленыя фаліянты.
Брэху вольна ў прасторах,
Рэху мякка ў снягах,
Перасіплі вятры на таргах,
Перазяблі паляны...

Зюзя — як цёзка паганскага бога —
Мароз
Лічыць сваім
І вітае хвастом адпаведна.
У зборніках рыфму
Правярае на зуб усур'ёз.
А за сталом сам паэта —
Унты на нагах —
Усё, як сабака, ведае.

Зюзя смакуе цукеркі, выцягвае зубы з іх,
Як з гнёздаў штэпселі некалі
тэлефаністкі.
А ў паэта ў напамінальніцах запісных
Нумар тэлефона Музы і адрас унізе.
Рэкс з паважнасцю царскай
Сняжынкі есць на ляту,
Аб шарпак апякае, як аб вуголле, лапы.
Так непасрэдна радуецца свайму ж хвасту,
Аж бялюткія хмаркі бягуць
З ягонай разяўленай ляпы.
Зюзя і Рэкс з недаверам
Абнюхваюць унты,

Калі іх з прагулянкі лясной
Прыводзіць вяльможны паэта.
Гэтаксама снег даганялі
калісьці браты,
А цяпер на нагах дзень пры дні
Шукаюць сюжэты.

Зноў паэта,
Наведаўшы сцішаныя лясы,
Над аблогай паперы
З ночы ў ноч уздымае паходні.
І ў азёрах вачэй
Пад сярпом схіляюцца каласы,
І Хрыстос наважваецца
Прызямліцца ў Гародні...

* * *

Мы лічым, што праводзім час,
Хто похапкам,
А хто — паволі.
А гэта час
Праводзіць нас,
Каб болей
Не сустрэць ніколі!

* * *

Душа баліць
Зусім не так, як сэрца,
Той боль не ўтаймаваць нічым,
Няхай маўчым,
Няхай крычым —
Душу праверыць боль-зняверца.

Той светлы боль
Нічым не ашукаць:
Ні шэптам, ані гаманою,
Той боль
Не тушыцца маною,
Бо ўмее полымем шугаць.

А ў полымі бязлітасным згарыць
На прысак марната любая.
Душы, што боль упадабае,
Захочацца загаварыць
Як на духу
З другой пакутацерпцай,
Зноў боль адчуць,
Нібы спярша...

Пакуль баліць душа,
З надзеяй
Можа біцца сэрца.

* * *

І прыцемак, і сцежкі — тыя ж,
Адно што поўні не відно.
А ты чаму, мой смутак, ныеш,
Як прысмірэлае акно,

Што небу гаварыла нешта,
Калі маўчала цішыня?
...З ялін спадала снегу рэшта
На выкуп маладога дня.

Была ўзаемнаю ўзаемнасць,
Трывога чуйнаю была.
І дрэў знаёмая таемнасць
Шаптала з кожнага ствала.

Сляды дзяліліся з сумётам
Праўдападобнаю маной,
Сляды знікалі ў змрок
І потым
Гарэлі ў небе нада мной...

* * *

І толькі ў забыўлівым сне
І ў недаверлівым успаміне
Абраза цябе абміне,
Бяда хоць на момант пакіне.

Бо толькі ў забыўлівым сне
І ў недаверлівым успаміне
У страчанай старане
Матуля гаруе па сыне.

І там
Ты малы яшчэ,
І гора тваё малое,
І светла сляза цячэ
Па ціхай сасне смалою...



Як той шахцёр,
Глыбокія пласты
Сваёй душы таропка выбіраю.
Хаця б не быў
Апошні пласт пусты.
Парода б не запоўніла сырая.

Таемных думак
Цёмны антрацыт
Адлежаўся,
Прыцiснуты гадамі.
І ранішняе веры дэфіцыт
Яшчэ не выстудзіўся
Халадамі.

І кожны пласт,
Нібы той далягляд,
Дагнаць хачу ўспамінам
Наўздагад...

## Каля ліставейнага вогнішча

На плошчу Якуба Коласа
коні зайшлі —
Два наравістыя кавалеры з дамаю:
Між плітаў жывыя дзялянкі
зялёнай зямлі
З асенняй травой
далікатнай самаю.

Пегасы з дзядамі ў хвастах
збеглі ад цыганоў
На пегасвішча пасвішча
з бомамі-рыфмамі.
А можа, з наднёманскіх табуноў,
з туманоў
Прыйшлі, як са сноў,
і зябка бакамі ўздрыгваюць.

Аб брук ды асфальт
пазбівалі ўсе капыты,
А іскру спагады
да лёсу свайго не высеклі.
І трапілі на траву,
цёплую ад глухаты,
Як аднаасобнікі тыя на выселкі.

Пакуль яшчэ сівер
атаву ўсю не саскуб,
Паласавацца можна
абрыдлаю збруяй не звонячы.
Якраз на начлезе
замроіўся дзядзька Якуб.
З ім побач Сымон
каля ліставейнага вогнішча.

Чакаеш, што ўмомант
узнікне, як бог Саваоф,
Заір Ісакавіч Азгур,
з майстэрні выйшаўшы.
Ды некуды мчацца Пегасы,
абрыўкі строф
Падковамі
на выспе зялёнай вышыўшы...



Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём
Штогодна, штогадзінна, штохвілінна,
Твой кожны дзень,
Забраны забыццём,
Лічы сваім найбольшым адкрыццём,
Ты — з дрэва часу
Кволая галіна.

Штодня вядзі з самім сабою бой,
Каб клопаты цябе не пахавалі,
Жыві надзеяй,
Мараю слабой,
Што свет трымаецца
Адным табой —
З ракі ўсёзабыцця — намерам хвалі.

Старайся не ў дзяльбе,
А ў малацьбе,
Каб вымалаціць з цемрачы праменне.
Ляж зморшчынкай
Ва ўсмешцы на ілбе,
Каб недзе ўспомніла жыццё цябе,
У незваротнай вечнасці —
Імгненне.

## Латынь

Кацілася на ўсе мацерыкі,
Ёй не сугучны
Кожны гук гасіла,
Адна дапушчаная да рукі,
Якой выводзіла загады сіла.

Каб дзікасць разнамоўных
Даяднаць
Да аднамоўнага маўчання,
Ўлада
Аб'едкі дазваляла даядаць
З таго стала, дзе ела зваду звада.

Але памылкі, як з-пад пліт трава,
Ўбіваліся ў дзяржаўны стыль,
І мова —
Вякамі вырачаная ўдава,
Звыкла да чужога дзеяслова.

Граніт імперый рушыць часу плынь,
Куміры вырастаюць з даўніх рызаў.
І зглухла ўсемагутная латынь
У галасах жывучых барбарызмаў...

* * *

Зямля —
Правінцыя Сусвету,
Ускраіна,
Дзе праз вякі
Заземленыя землякі —
Усе з зялёнага павету.

Заземленыя сілай зерня
І ўладнай прагай араллі.
Расці, зямляк,
І не мізэрней —
Асілкі тут здаўна раслі!

Заземленыя, як антэны,
Каб слаць у космас галасы,
Заступнікі зямной красы,
Жылі Антоны і Антэі.

Пампеяў зглухлых хутарышчы
Дасюль крычаць у забыцці:
— Сябе, правінцыя, не знішчы,
Згарэць дачасна не ляці!

## Разнагоддзе

Як разнатраўе, разнагоддзе
На дымных выпасах вякоў,
Што рады цёплых рос нагодзе,
Маладзіковасці падкоў.

У разнахіб'і траў
Шчавульнік,
І лебяда, і дзівасіл,
Рамонак,—
Ім, як беспрытульнік,
Варожыць хмуры небасхіл.

У разнагоддзі ў кожным годзе
Ты сам сябе перамагаў,
Спяшаў, а тлен суцішваў: годзе! —
І вокам здрадніцкім міргаў.

У разнагоддзі ўсмешка зорак
І недаверу частакол,
Спаткання веснавы пагорак
І развітання сцюжны дол.

Я лёсу дзякую за літасць,
За сцежку блытаных слядоў,
За разнастайнасць,
Размаітасць
У разнатайнасці гадоў!

## Майстэрства мастачыць вуду

Як добрую вуду звіць?
Для гэтага трэба спачатку
На лузе каня злавіць,
Дазволу ў яго спытацца
Валосся вырваць з хваста —
Пад'ехаць летам санямі —
Каб маладзічок капыта
На лобе тваім не заняўся.

У жмені воласу жмук,
Паклапаціся пра попел.
Любое майстэрства з мук,
На вопыт заўсёды попыт.
Як волас пачнеш сучыць,
Макаючы ў попел пальцы,
Патрэбна пільна сачыць,
Не перакруціць бы ў запале,

І ўрэшце звязаць вузлы,
І звесці канцы з канцамі.
Калі, нецярплівы і злы,
Удачы не абяцаю.

Кручок завузлуй пасля
І, выразаўшы ляшчыну,
У тумане з-за камля
Сваю не праспі хвіліну,
Калі ў дугу вудаўё
Сагнецца ад перапуду.
Праверыць рака тваё
Майстэрства мастачыць вуду!

## Чышчу бульбу

Памалу чышчу бульбу з той зямлі,
Якую помню босымі нагамі,
Навобмацак рукамі пад снягамі
Зямлю пазнаю,
Бо на ёй былі
Усе мае, што сталі каранямі,
Пясчынкамі,
Лясных дарог краямі,
Што з тлумнымі паводкамі сплылі.

Там бульбай адбывалі
Святы ўсе:
На клёцкі бульбу дралі на хаўтуры,
З душамі клёцкі дзень віталі хмуры
У кроплях пары,
Нібыта ў расе.
І на дзяды таксама клёцкі елі,
Напаміналі, што не вечна ў целе
Душа святло дрыготкае нясе.

Вячэра будзе смачнай, як тады,
Калі цалкі скакалі ў рот са спрытам,
Калі з цяпер забытым апетытам
Нішчымніца чакала лебяды.
Я чышчу бульбу,
Пахнуць ацяробкі
Сцяжынкамі, што выбеглі на ўзлобкі.
Як мама,
Клічуць даўнія гады:
«З печы, з полу
Сабірайцеся к столу!..»

# Накід партрэта Іманта Зіедоніса

У стозе ягонай чупрыны
Можа заблытацца рыфмаў рой —
У народнага валасоў бы хапіла
Прыкрыць залысіны пачаткоўцаў сучасных.
Вачэй прымружаных насцярожаныя азярыны
У чародах метафар любой парой.
З даланёю адкрытай рукаюцца каса і вілы.
Прыбой вандровак радку не дае зачахнуць.

Ён свой на ўзмор'і і ў Домскім саборы.
У Салдусе могуць паказаць хлеў,
Дзе абначаваў ён
і з вершам прачнуўся ўранні.
Выскубваў з ясляў Пегас зорныя асачынкі.
Паэт застаецца з усімі самім сабою.
Кнігі яго на покуце, там, дзе хлеб.
«Курзімітэ» на цытаты ўся разабрана,
Як Акропаль турыстамі на пясчынкі.

Вазок параўнанняў дакладных
Разбіў ацішэлы рысак.
Прысталі выразы, што заляцелі ў крылатыя.
Дакладна гучыць адно:
Яго ведаюць так,
Як Іманта Зіедоніса ў Латвіі.

## Чувашскаму слову

Цябе раздзьмухне веры подых —
Пачуе неба твой уздых.
Табе прытлела ў стахлых одах —
Гары на вуснах маладых!

Так,
Як і продак твой калісьці,
Стой, слова, цвёрда па вясне
Адной нагою —
У калысцы,
Другой —
У дымкай баразне.

Аблогу заглушную ўзорвай,
На далані зярняты важ.
Сто тысяч крэўных слоў
І ўзораў
Нашчадку ашчадзіў чуваш.



Наша ўсё знікае разам з намі,
Наша неба, нашая зямля.
Хіба нешта
Ранішнімі снамі
Некалі паўторыцца пасля.

Гэта наша ўсё
Ствараем самі,
Каб было расстацца балючэй
З нашымі азёрамі, лясамі,
З зорамі — ўспамінамі вачэй.

Мы па-свойму
Свой жа свет іначым.
Кволім дабрыню,
Карчуем зло.
На сябе працуем,
Каб і нашым
Спадкаемцам хораша было.

Разрываем ворагаў няшчадна,
Гонім чорных думак асаўё,
Шумна адыходзім,
А нашчадкі
Возьмуцца спакойна за сваё.

## Замест ліста

*Вользе Іпатавай*

Вольга Міхайлаўна,
Велікадушна
Вы мне даруйце «ты»,
А ў Міры
Сівеюць без ласкі муры,
Аблокам скрушна,
Нябёсам не птушна
Без рэхавокай сястры.

Вольга!
Дазволь га-
варыць,
Як светла
Мне, калі ўсмешку бачу тваю,
Нібы ад таго,
Ад цябе не ўтаю,
Які ніколі не прыйдзе,
Канверта.

Імя тваёй маладой сяброўкі
Вымавіць права не маю даўно.
Ты — як вясціна
З чароўнай вандроўкі,
З дому,
Дзе мне не ўсміхнецца акно...

Як той пад дугой шаргунец,
Самоту ў прастору рухаю.
«Звініць званец, звініць званец
Са скрухаю»,—
Твае радкі я слухаю.

* * *

24.XII.78. Дубулты

Вы для мяне
Прыгожая занадта.
Вы замужам былі,
А я — жанаты.

Жанаты я,
Заняты сам сабою.
Дачцэ ўжо дзеўчыцца
Вясной любою.

На Вас гляджу,
Як на дачку часамі.
Ці сон вясны,
Ці Вы са мною самі?

Забыць свае гады
Слабыя спробы.
Старэю —
Маладыя даспадобы!

5 Зак. 2305

# І сабе на ўспамін

Маладыя гады,
Маладыя жадання!
*Максім Багдановіч*

Не вернеш спагадай Нямігу,
Жар-птушку,
Бізонаў сляды.
Яшчэ б я ў Чырвоную кнігу
Занёс маладыя гады.

Гады чысціні і надзеі,
Гады парыванняў і мрой,
Калі яшчэ дзень маладзее
І ў зорак вясновы настрой.

Калі ўсё наперадзе недзе,
Заплеччу — ні зла, ні пакут.
Воз роспачы сцішана едзе,
Бо радасць сядае на кут.

Усё так і дзіўна, і проста,
І ўсе, хто ні ёсць,—
Сябрукі.
Спатканню не бачыцца ростань,
І ўзрушвае дотык рукі.

Узлескі гарэць верасамі,
Пад снегам не стынуць груды.
Сябе абганяючы самі,
Ідуць маладыя гады.

Разыдуцца, знікнуць па свеце,
Не збавіўшы шпарка хады.
Дагнаць, маладыя, паспейце
Свае маладыя гады!

* * *

Давяраю і жніўню, і маю,
Паважаць пачынаю тугу.
Не магу адказаць,
Ці кахаю.
Ведаю:
Без цябе не магу!



Можа, голас пачуеш мой,
Ведай —
Смеласці не было,
І дамовіўся я з зімой,
Каб напомніла пра цяпло.

Рыпне прыцемак незнарок,
Ведай —
Гэта не я іду,
Ды не мог утрымаць свой крок,
Што прывык давярацца ільду.

Загалосіць твой тэлефон,
Ведай —
Гэта не я званю,
Вецер з тых незабытых дзён
Хоча выслухаць ціішыню...

Я вучыўся табой гаварыць,
Я вучыўся маўчаць табой.
Неба смутку майго гарыць,
Ліўням не затушыць той боль.

Перуны не спяць,
Ды вясны
Без асенняй цябе няма.
Да мяне пасылаеш сны.
Хоць аднойчы прыйдзі сама!

# Едзем з Юркам Голубам павітацца з Балтыкай

> А чый галуб ляціць на дуб,
> А мой на бярозу,
> Чые мужы п'юць, гуляюць,
> А мой — у дарозе.
>
> *З ушацкай хрэсьбіннай песні*

А корань наскі — юр,
Балтыйскі — мора (jura),
Я помню, ўшацкі чмур
Хаваўся за каптур
І хітра вока жмурыў.

Біла ў коміне ў далоні
Прыпеўка не нямтурка:
— Нікому так не ўдалося,
Як нашаму Юрку:
Сам на печы,
Чуб на плечы,
Думкі — у пячурку!

Сваю частушку з Зэльвы
Мне потым запакець.
З таго ствала крамзель мы,
З якога не пякець!

Хвала балтыйскай хвалі
Ў разгоне і ў паўзку,
Дзе адрэдагавалі
Сляды сябе ў пяску;

Дзе ў шквале прастагналі
Сшалелыя вятры,
Дзе думкі бурштынамі
Прасвечаны ў віры;

Дзе гулкае прадонне
Прысвечана начы,
Дзе восенню рудою
Ступаюць дзеркачы

У вырай, у вандроўку
Ля ціхіх станцый, пошт,
Як бы ў камандзіроўку
Ідуць за ўласны кошт...

А песня ўсё ў пагрозе,
Трывожна нарачонцы,
Суцішыцца не можа:
— А калі ж ён у дарозе,
Пашчась яго,
Божа,
А калі ж ён у карчомцы,
Забі яго,
Божа!

А Балтыка ў сур'ёзе
Паўнютка з берагамі,
Ёй вольна, распушчонцы,
Бушуе перад намі.
— А калі ж ён у дарозе,
Пашчась пірагамі,
А калі ж ён у карчомцы,
Забі перунамі!
Дождж цягне хмара хмура,
З дарогі прэч — саб'е!
Вязі ў Гародню, Юра,
Гул мора
У сабе!
Хай да цябе, пястуха,
Прытуліць жонка вуха —
Не ўчуе больш нідзе,
Як Балтыка гудзе!

# Вякі

Каменны век,
Ён каменя за пазухай,
Бо пазухі не меў,
Насіць не мог.
Ягонымі каменнымі запасамі
Багаты спадкаемцы ўсіх эпох.

Век бронзавы
Спрыяў званам і помнікам.
Хапае ўсім эпохам званароў.
Шлях чалабітны
Зарасце маркоўнікам,
А ўбранзавеласць моўчкі прыме роў.

Жалезны век
Жалезным наканечнікам
Узліў пяро драўлянае стралы.
Сваёй здагадкай
Пальцам пакалечаным
Паказваў,
Дзе дужэе страх малы.

Жалезных нерваў
Логіка жалезная
Раскручвала калючыя драты.
Жалезны век,
Ён браў яму належнае,
А рэштку браў наступны —
Залаты.

Змяняліся абставіны, калізіі,
І кожны век
Сук пад сабою сек.

І ўсе вякі
У змоўкласці наблізілі
Незразумелы папяровы век.

Папера чырванець не можа,
Спіша ўсё —
І просьбу, і параду, і паклёп.
Абразліва, пагрозліва, напышліва
Любы вянчае і канчае лоб.

Век папяровы
Сілаю валодае,
Што робіць папяровую душу.
Яго ўгнявіць баюся
Нават одаю,
Бо на паперы, што ён даў,
Пішу.

## Асірацелая балада

У холадзе, ў голадзе стыне
Наваколле сурова.
І ва ўсім Замошшы
Адна карова
У сям'і мнагадзетнай,
Кажучы мовай газетнай,
Адна карміцелька выжыла
На ўсю талаку.
Хоць некалі да вайны
Стагнала прымаўка-выжла:
Па малаку
Ног не павалаку...
І прыйшлі па карову аднойчы
Са шпіталя.
А на дзядзькоў малечыя вочы
Глядзяць
І сірацеюць ад жалю.
І дзядзькі не ведаюць,
Куды паглядзець,
Дзе вочы падзець.
І раптам на ўсё гатовы
Сказаў трохгадовы
Віця,—
Самі ўцякалі ад плачу словы
Ад усохлага камлючка:
— Дзядзечка,
Вы кароўку бярыце,
Я ў мамы не папрашу малачка...

# Юльянішка

Стрыечная сястра Петруся Юстынёнка,
пачутага славай далёка Броўкі,
Настасся сядзіць перад тэлекамерай
на трэцяй сходцы драбінак, якія
вядуць да сівярыстых вятроў,
на гарышча.

Папраўляе мяне, што яна сястра дваюрадная,
а стрыечная —гэта далей,
радней дваюрадная.

Футравейка з каракуля, які
перажывае сваіх гаспадынь ашчадных,
хусцінка ў рунявых шляхах, а рунь
яшчэ грэецца пад глыбокім снегам.

Настасся Юльянішка расказвае
пра холад пекла Асвенціма, крыўдзіцца
на цяжкую зіму,
што сёлета не хоча пакінуць
галодную на цяпло хату і заняпалы двор.

З маткай Петруся, цёткай сваёй Аленай,
зведала маладая Настачка
з дзіцёнкам сваім
усё прадонне абраз і пакут, яна адна
вярнулася ў лясную вёсачку,
у Пуцілкавічы,
да крынічкі, адкуль пачынае свой бег
рачулка Ушачка, калышучы верш Петруся.

Асвенцімскі нумар пячэ руку, якой
цяжка ўжо браць дровы з градушкі,
несці з крынічкі вядзерца вады.
Як борці, хацінкі пчол абымшэлі.

Не хата, кажа, а дом інвалідаў.
Кот недзе лапу звярэдзіў, спачатку
грукаў ёй, безжыццёвай, як парася тое,
а потым яна адпала і зажыла. Але ён
ловіць яшчэ мышэй і нават з пацукамі
дужаецца пасля мышалоўкі. Здалі —
бачу, як ён ідзець — штыргік, штыргік.

Курыца таксама была аб адной назе.
І самую ўжо ногі неахвотна носяць.
Юрка, калі наязджае, хоць на хвіліну
заскочыць, дзякуй яму, сынок Петрусёў.

Семдзесят тры ўжо сёлетняй вясной
адлічыла.
Але хачу дачакацца, калі адчыняць
хату-музей Петруся. Нешта ж дужа марудна
яе адчыняюць.
Няўжо за апошнія снежныя зімы
так набраклі дзвярыны?

## Да вавёркі

Круці, вавёрка, кола
І ўдзень і ўноч круці.
Наўкола ўсё вясёла
Закручана ў жыцці.

Па-свойму ўсе таксама
Мы круцім шар зямны.
Жыццё — такая крама,
Дзе не ўлічыць цаны.

Вайстры, вайстры, вавёрка,
Аб сетку кіпцюры.
Тваё дупло, акторка,
Самотнее ў бары.

І нам з зямнога кола
Нікуды не ўцячы.
Мы ўсе з-за частакола
Глядзім, як цыркачы.

З-за частаколу звычак,
Нягод, нязгод, абраз.
Мы лічым вечнасць знічак,
Што дагараць за нас.

Як ні круціся ў коле
Няспыннай мітусні,
Агністая, ніколі
Ты не падпаліш дні.

## Куды?

Прырода ўцякае ў снягі,
У лівень, у слоту, ў спякоту.
Няхай адпачнуць трыснягі,
Затокі, лугі, берагі,
На плыні аціхлай — кругі,
Шчасліва адчуўшы самоту.

Прыродзе лацвей уцякаць,
Ракой выцякаць, уцякаць,
Пазбыўшыся ўціску і здзеку.

Ад радасці і ад тугі,
Хлусні, мітусні, пустальгі,
Ад ціхай магільнай чаргі
Куды
Уцячы чалавеку?

* * *

А трэба так,
Каб хоць адна ахвяра
Жыла,
Пакуль жыве на свеце
Кат,
Каб над душой
Стаяла ў ката
Кара,
Сачыў перазараджаны
Пагляд,
Нябачаны,
За кожным рухам ката
І забывацца не даваў яму,
Што доўг свой спраўна
Аддае расплата,
Як ліхвяру,
Крыўдзіцелю свайму!

## Чаканне

Так выглядаў цябе,
Аж стаў сляпы,
Аглух,
Не ўчуўшы крокаў з нематы.
Гляджу —
Насустрач рушылі слупы,
І чую —
Хочуць вырвацца кусты.
Усе ідуць.
Чаму ж не выйдзеш ты?

## Прысвячэнне

*Юбілеям, у тым ліку і свайму*

Юбілеі — цяпельцы вячэрнія.
Юбіляраў, як тыя сукі,
Кідаюць у агністае чэрава,
Грэюцца дружбакі,
Сваякі.

Грэюцца маладымі ўспамінамі
І пакліканай дабрынёй,
Мераць рост вінаваўцы аршынамі,
Пахвалу адсыпаюць асьмінамі,
Засланяюць сабой, бы бранёй.
Ды не тое прысмерклае полымя,
Не трывае браня дабрыні.
Жар грабецца старымі чапёламі.
Спачуваюць наступныя дні.

І павага і ўвага прыстойная,
І спагада —ўсяму галава.
І маўчаць маладыя застольнікі.
Ды казыча ўжо змена настойліва
Нас, як стахлае лісце,
Трава.

## Спеў цішыні

Бор —
Санцастволых сосен хор,
Што ўзносяць хваласпеў да зор
Нябёсам,
Каб зямлі дакор
Забыць,
Каб жыць
І ў смалазбор
Трывогу з патаемных нор
На сцежкі да лісіц-сясцёр
Паклікаць,
Каб яны касцёр
Зацеплілі на ўвесь прастор,
Каб полымя раздзьмуў віхор,
Бярозкі выслаўшы ў дазор,—
Спявае цішынёю бор.
Паслухайце!

## Лозунг

Няхай жыве народ
У думцы,
ў згодзе,
ў бунце.
Яму замок на рот
Павесіць не спрабуйце.

Няхай смяецца, кпіць,
Абразы не прымае.
Хай п'е,
Хто ўмее піць,
Пяе —
Як голас мае.

Народ забыў такіх,
Што пяліся, пацелі,
У прарабы душ людскіх
Праціснуцца хацелі.

Такі падрадчык рад,
Задобрыўшы нагоду,
Народ,
Нібы нарад,
Закрыць, як кажуць, з ходу.

Ды час-рахункавод
Вядзе свае падлікі.
Жыве ў вяках народ
Нязломнасцю вялікі.

## Неўміручы

Табе далягляд завузкі,
Занізкі нябесны дах,
Немаўлятамі —
Перад табою быліны.
Мусіш ты
Хоць якую хвіліну
Пабыць ва ўсіх сваіх гарадах,
На заводах,
На шахтах,
На вахтах,
На стромах у хмарах калматых,
У раёнах,
А іх — мільёны
Усіх,
Што носяць тваё імя.
Ты мусіш абысці пры нагодзе
Вуліцы свае,
Праспекты, кварталы,
Хоць зірнуць на зорныя трасы,
Імем тваім пакораныя,
На ўсе імем тваім азораныя
Касмічныя кручы.
У чалавецтва на гэта
Не хопіць стагоддзяў,
Будзе эпох замала,
Чалавецтву таго не змагчы,
А табе гэта ўсё па плячы,
Бо ты, Ільіч,—
НЕЎМІРУЧЫ!



Я сваё жыццё перажыву,
Век мой сціплы —
Не сябе самога.
Не даваў ніколі лёс замнога
За маю сівую галаву.

Я сваё жыццё перажыву
Мараю захмарнай аб надзеле
Вечным.
Ціхім словам абнадзею
Долю,
Як самотную ўдаву.

І, жыццю паверыўшы,
Сябе,
Як радню сваю, не пашкадую.
Не дагнаўшы радасць маладую,
Буду рады восеньскай журбе.

Вечны век перажыве мяне.
Прыйдзе ноч па перазяблай грудзе —
І на кожным зорным лахмане
У яе
Світаць мой смутак будзе.

## Ускраіна

У рукавах драўляных вулак
І снегавіцей, і цішэй.
І кот, што мае свой прытулак,
Яшчэ слыве як біч мышэй.

Штыкет з усёмагчымай тары,
Дзе пільнасць слоў: «Не кантаваць!»
Пад ранішнія тары-бары
Яшчэ трывае бытаваць.

Дамы бетоннае пароды
Вядуць уладны наступ свой
І на Татарскія гароды,
На брук, паточаны травой.

Далей ускраіна ўцякае,
Адчуўшы камяніц уціск.
Махіна сунецца цяжкая,
Якая
І завецца Мінск.

Усё радзей убачыш хустку
З вузельцамі пад бараду.
Шыкун-праспект любую пустку
Хутчэй хавае ў лебяду.

Цішэе мінская гаворка
У тлуме іншых галасоў.
Уцёк з лагоднага падворка
Сабачы брэх — дагнаць засоў.

Як сырадой той, піва ў краме
Смакуюць з агурком дзядзькі.
А ў вокны з выселак ускраін
Яшчэ смяюцца васількі.

# Тлумачэнне

Большасць радкоў гэтай кнігі
Ты дыктавала.
Даруй,
Калі кепска занатаваў,
Бо часта спяшаўся,
Баючыся ўпусціць хоць слова,
Бо часта блытаўся,
Зазіраючы ў вочы твае,
Бо часта адцягваўся ўвагай,
Баючыся, што знікнеш,
І я застануся самотны
Успамінаць
Тваё кожнае слова,
Паўслова,
Кожны твой выдых...

* * *

Я за табой, як след,
Услед, услед
Па цаліку нясмеласці ступаю.
Сусвет мой,
Свет мой,
Змрок мой і прасвет,
І цемра ўсёвідушчасцю сляпая.

Пакуль ёсць ты,
Ёсць я такі як ёсць.
Цябе кахаю —
Значыць, я існую.
Тваёй спакусы запазнелы госць,
Пільную згоду —
Яблыню лясную,

Каб не кранулі завязь халады,
Каб яблыку мальбы
Было дзе ўпасці,
Каб не ўрачы і ў думках
Слова *шчасце*,
Шукаю вір,
Забыўшы на брады...



Спыталася светла дасвецце,
Усмешку схаваўшы ў лугі:
— Што самае лёгкае ў свеце?
— Пяшчоты тваёй ланцугі.

Спыталася хітра прылецце,
Забраўшы раку ў берагі:
— Што самае цяжкае ў свеце?
— Пагарды тваёй ланцугі.

І цёмна спыталася вецце,
Сціскаючы пальцы тугі:
— Што самае зніклае ў свеце?
— Даверу твайго ланцугі.

І, верачы добрай прыкмеце,
Крычу, апрытомнеўшы ледзь:
— Рабом найапошнім у свеце
Хачу ланцугамі звінець!

## Дыпціх прысвячэння

*Міхасю С.*

I

Імшэюць нашыя дамы,
Прытулкі радасці,
Дзе мы
Саміх сябе пачуць хацелі.
Глушэюць нашыя грамы,
Што нас маглі
З глухой зімы,
Як тую рунь,
Падняць з пасцелі.
Цішэюць нашыя дымы —
Працяг зялёнае думы́
Смалістай баравой арцелі.
Вайна перадала шрамы
Надскепам бліскавіц,
Траншэям.
Не верыцца, што гэта мы
Імшэем,
Глушэем,
Цішэем.

II

Да грамніц пільнуйся рукавіц!
Ты азваўся свету на грамніцы.
За драты калючых бліскавіц
Браўся галаруч
І навальніцу
Запрашаў паслухаць цішыню,

Ды ў адказ і цішыня грымела.
Дазваляў пад сэрцам грэцца дню,
Перапісваў прызімак набела.

Кідаў рукавіцу перуну,
Прэчыў асцярожнасці законы,
Пазычаў у пеўня пер'іну,
Смутны,
Неадумны,
Рызыкоўны,
Каб у сшытку неба
Млечны сказ
Перакрэсліць
І пачаць пра тое,
Як, ад нас уцёкшы,
Просіць час
У спагады даўняга пастою.

Час каня забытнасці вядзе,
Прымярае кон
Старую збрую.

На грамніцы дадзена вадзе
Зноў успомніць
Сілу маладую.

## Сяргей Палуян

Не заімшэла-саламяна,
А вогнедаха-палымяна
Здалёку клікала яна,
Радзіма-маці, Палуяна.
Яго забрала, як вайна,
У рэкруты святая справа
Даць думку роднай старане.
Духоўная, скупая страва
На лебядзе, на палыне
Прыгатаваная выгнаннем
На вогнішчы сцюдзёным раннем
Была да смаку
Небараку.
Няхай багатая куцця
Сама ідзе на стол басцяку,
Хто Беларусь, нібы дзіця,
Пакінуць без прытулку хоча.
Халодны сам, шаптаў:
— Сіроча,
Змагайся, родны край, з бядой.
Як на Вялікадне вадой
Абмыйся думкай самавітай
І на снягах надзеяй вытай
Праталіну пад рунь густую.
Хай рэчка веры нерастуе
І крышыць крыгі стылых зім.
Яшчэ далёка самабранка,
Ды падае свой голас Янка,
Знайшоў свой маладзік
Максім.
Пасля
Самотнага Сяргея
Іскрынка памяці сагрэе.

## Смерць аратая

*Памяці Пётры Рагойшы*

Асунуўся на мяхі
З бульбай пяшчотналычай.
Свет,
Да пакут глухі,
Даўні шануе звычай:

Дарога бяжыць наўздагон,
Спяшаецца конь дадому.
Што стыне сялянскі трон,
Яшчэ не вядома нікому.

Хапае раніцы спраў,
Канец клопатам аратая.
Поле,
Дзе бульбу браў,
За пот яго доўг вяртае.

Тут восені юбілей,
А ў горадзе сын і ўнукі
Гарачай бульбай смялей
Азяблыя грэюць рукі.

Затрымаліся халады,
Каб дол узяла рыдлёўка.
Конь сум павязе на клады.
Яшчэ адна
Адбыта радоўка.

* * *

Губ цалаваных, мілаваных
Нязмушаная чысціня,
Як быццам
На пачатку дня
Наноў вярнуўся,
Каб забыцца
Свой сум на ранішніх палянах.

Прытушаных у ясным прыску
Вачэй вячэрніх
Ціхі змрок,
Ці гэта захацеў прарок
Хутчэй
Пад спадзяваннем даўнім
Падвесці развітання рыску?

Абразай здрады не кранутых
Грудзей
Падкрэслены намёк.
Стан апавіў
Аблок дымок,
Радзей
Ён сочыцца ўхмялелы
Ў пачутых розумам пакутах.

Адчай
З касмічнай нематы
Мой на зямлі
Ці ўчуеш ты?



Святлее сакавіцкі снег,
Калі цябе прыпамінаю,
Святлее самы цёмны грэх,
Калі цябе прыпамінаю,
Глушэе лютых плётак брэх,
Калі цябе прыпамінаю.
Я тыя сцежкі абмінаю,
Што ад цябе
Вядуць мой спех.

А ты не ведаеш пра гэта,
Занятая зусім не тым,
І клопатаў тваіх анкета
Запоўнена чаканнем лета.
І кухня, і электрадым
Твой бачаць смех,
Твой чуюць смех,
А я цябе прыпамінаю,
Сваё вар'яцтва праклінаю,
Трымаю ўсіх сцяжын разбег,
Што рызыкуюць след мой весці,
Туды, дзе спыніцца
Нарэшце.



Паэтаў — галаснікоў вякоў,
Нябронзавых,
Немармуровых,
Не затуленых ад скразнякоў,
У сцены пакут замуроўвалі.

Аб паэтах дбалі правадыры
Ўсіх плямён,
І цары, імператары
Па этапах пускалі
І шчодра дары
Раздавалі, сумленне сваталі.

Над снамі паэтаў
Шумяць сасмякі,
Стынуць снягі
І пяскі сыпучыя.
Голас роздуму
Моцняць галаснікі,
Каб катаў
Сумленне замучыла.

# Змена пакаленняў

Глядзяць маладыя старэйшаму ў рот,
Каб слова злавіць,
Каб спатоліць ахвоту.
Глядзяць і пасля,
Толькі наадварот —
Каб выдраць
Кавалак апошні з роту.

* * *

Пахі ўсе зямля бярэ па часе —
Пах віна, віны, маны, згрызот,
Застанецца подзвіг,
Што пачаўся
У цяпер ужо далёкі год.

Ветэраны дапіваюць келіх
Той, што ўкоптур наліла вайна.
І дасюль вядзе пякельны пеленг
У ланцуг бяды,
Каб да звана
Ацалелыя пазлучваць звёны.

Ветэраны — хрэснікі вайны,
Кожны
Быў на смерць багаславёны,
Аж дасюль здзіўляюцца яны,
Як з агню агнёў свае імёны
Вынеслі, нібыта з даўніны.



Ад думкі ад тае,
Што ты непадалёку
Вітаеш гэты дзень,
І сэрца адтае,
І ўсцешанаму воку
Святлей звініць прамень.

Прамень нацягнеш ты
Вяроўкай для бялізны,
Сушыць мае лісты —
Іх будзе цуг вялізны
Да прысмеркаў вісець,
Дзе з ельніку асець.

Паслаў лістоў не шмат,
А напісаў багата
На небе, на вадзе
Да ўсіх прыстольных свят,
А дзень з табою — свята,
Што свой адлік вядзе.

Нядоўга да слаты,
Да ледзяной дарогі
З падступнай слізгатой,
З завейна-сцюжнай доляй.
Шлю з восенню лісты
Табе без асцярогі
Апошняй,
Першай,
Той,
Якой не будзе болей...

* * *

Ты любіш сваю ў сабе
Раптоўную закаханасць,
Далёкая беззаганнасць
Атаву гадоў грабе.

І вершыць стажок малы,
Дзе томіцца пах падвялы.
Успомніць хочуць падвалы
Вярэдлівы пах смалы

У выкарчаваных барах,
Дзе пальцам дрыготкім зябка,
Дзе шчэрыцца звадаў зяпка,
Забыўшы нябачны страх.

Хай спорна стажок расце,
Хай пахне зіме атава,
Дзе косіць каса ласкава
На досвіткавай вярсце.



Уздаўшы небу хваласпеў,
Што нас звяло,
Пачнём пра сутнасць.
Адно я зразумець паспеў
Тваёй няўлоўнасці прысутнасць.

Тваю прысутнасць на зямлі,
Пад зорамі,
І ў ціхай хаце,
Завеі ані замялі,
Ані звялі
Вякоў закляцці.

Яе ніхто не закране,
З нябесных не страсе прагалін,
Тваёй прысутнасці ўва мне
Высокую недасягальнасць.

Я гэту хату ні ключу
Не даручу,
Ні нават скрусе.
Табе паверыць я хачу,
А ты не верыш мне чамусьці.

Ні ў тлумным побыце, ні ў сне
Не выстудзіцца халадамі,
Тваёй прысутнасці ўва мне
І неабходнасць, і ўладарнасць.

## Хто лепіць гаршкі

*Васілю Сёмуху*

Не святыя лепяць гаршкі,
Бо святыя бруду баяцца,
Круг ганчарны
Ім надта цяжкі,
Не з рукі
Ім за працу брацца.

Глінамесы лепяць гаршкі,
І завуцца яны ганчарамі,
І грахі свае,
І грашкі
Не ў нябеснай купляюць краме.

Гліну дужаюць ганчары,
Покуль глінай не стануць самі,
Доля іхняя ў гушчары,
Сонца іхняе за лясамі.

Не святыя лепяць гаршкі,
А дзядзькі
З цяжкімі рукамі
Ходзяць з глінаю на паўшкі
І маўчаць —
Па суседству з вякамі.

# Жарт

Накрасаны адсвечным пяром
Свой грукапіс
У хмаравецтва
Прыпёр пачатковец-гром,
Ды там, дзе каротка,
Ірвецца.
Хмарадактарша-імжаністка
Хмыркнула:
— Хворая ў нас машыністка,
А Ваш грамайскі граман наўрад
Перагрукаць згодзіцца град,
У яго не хапае рук
На перагрук...

## Васілю Быкаву

Славу можа ўзважыць
Толькі гора,
Што сняжок зімы
Кладзе на скроні,
Заўтра ўпартае,
Чарствое ўчора,
А не запабежлівае сёння.

Не трывожна
Заслужонай славе
У сумлення на падсуднай лаве.

## Страшнавата

На старым нескамечана-роўны пінжак,
У меру провелікі, не мешкаваты.
Нібыта ён прымяраецца,
Як
Ляжамьце там,
Дзе вечная хата...

## Пра сівізну і рабрыну

У бараду сівізна,
Пад рабрыну — нячысцік.
Ды восень, яна —
Не вясна,
Спадае фігавы лісцік.

Яшчэ акалічнасць адну
Патрэбна ўлічыць з журбою —
Адамаву рабрыну
Гады забіраюць з сабою.

# Максіму Танку

Гэта нялёгка —
Прайсці праз гады,
Дзе сцюдзянеюць зняверу ільды,
Дзе ад жуды
Вяне гнеў малады
На ўкравянелай жыццёвай дзялянцы.
Гэта нялёгка —
Прайсці праз клады,
І не прыцішыць юначай хады,
І не стамляцца красою здзіўляцца.

Гэта нялёгка —
Насенне святла
Несці, дзе цемра гняздоўе звіла,
Выкарміць сэрцам даверу арла,
Што, здабываючы сонца, згарае.
Гэта нялёгка —
Стаяць, як скала,
Крошкі надзеі змятаць са стала,
Шчасця акраец даруючы краю.

Гэта нялёгка —
Вагу ўзнагарод
Несці, што родны адшчодрыў народ,
Важыць цяжар неадкладных турбот
З думкай дапытнай,
З нядрэмным імпэтам.
Гэта нялёгка —
Адказваць штогод
За веснаход,
За палёт,
За ўмалот
І заставацца Паэтам!

* * *

З-пад стрэх брывоў вясёлымі
Усе вачыма цiўкаюць:
Як ліпа ў цвеце, пчоламі,
Вяснушкамі-радзімкамі

Усыпана салодкая,
Павейная, п'янлівая,
Зайздрослівымі плёткамі
Абмытая, што ліўнямі...

Зажурана замарышся —
Рой
Твой спакой ахутае.
Не надта напчаляршся —
На ліпе пчолы лютыя!

* * *

Па цішы пракоціцца, як па слюдзе,
Кропля,
Каб з гулкім маўчаннем зліцца.
Кастрычнік.
Досвітак.
Восень ідзе
У чаравіках з лісця...

# Поле болю

Ратны подзвіг на ратайным полі,
На — ад клубняў Млечным —
Бульбяным,
Дзе хавала раніца ў прыполе
Выбуху раз'ятранага дым.

Не паспела схамянуцца ціша.
Да зямлі ад страху цень прырос.
Ціша толькі выгукнула:
— Міша...
Рэха зябка крохнула:
— Мароз!..

Незарубцаванаю журбою
Ные ўараллела баразна.
Стыне
Поле болю,
Поле бою —
Дзе баліць па-свежаму
Вайна.

## У вянок жалобы
## Уладзіміру Караткевічу

Гарым,
Як тыя снегіры ў галлі,—
Пагаслы сорам леташняга снегу.
Мы ўсё спяшаем —
Нам няма калі,
Мы ўсе ва ўладзе
Стрэсу,
Спеху,
Бегу.

І падступае злыбяда сама,
І смутак смела ў вочы пазірае.
Мы клічам сябра,
А яго няма,
Яго чакае ўжо зямля сырая.

Хто асцярогу не любіў пасці,
Каго любіла доля ветравая,
Той чалавек,
Што быў цяжкі ў жыцці,
Хадзіў па вайстраках
І па асці,
У нябыт па кветках
Лёгка адплывае.

Нам робіцца самотна неўпрыкмет,
Сыходзім з мітуслівай каруселі.
Хацелі думкай ахапіць Сусвет,
А сябра
Да канца не зразумелі.

## На малады пачатак мая

Быў малады пачатак мая,
Чаромха ехала ў трамваі,
Перапавітая ў газету,
З таго,
Дзе ўсё жывое,
Свету
У свет бетону і жалеза
З таго,
Дзе хмель лясны шалее.

Яшчэ нахабнай быць не ўмела,
Азябла пахла і нямела.
Хацелася гукнуць чаромсе:
— Ты смела пахні, не саромейся,
Хай пасажыры ў веснім шале,
Як некалі дзяды ў кружале,
Забудуць нудную развагу,
Настрой даверыўшы размаху.

Чаромха! Пахам сум зрывай,
Хай, не падумаўшы, трамвай,
Як утрапёны, з рэек сыдзе
І з ходу ўрэжацца ў лясы,
Дзе
Нацёрлі пяткі сцежкам травы,
Дзе прысмак у кары гаркавы.
Дзе радасць нерасту на рэках.
Скажы, чаромха, што трымае
Сон пасажыраў у трамваі
І лязгатун-трамвай на рэйках?

## На радзіме Янкі Брыля

На радзіме Янкі Брыля
Хлопцы,
Досціпам падперазаныя,
Як бары,
Што былі партызанамі
Ад вершаліны да камля.

Як прынёманскія бары,
Хлопцы думныя, камлюкаватыя
Справу пратаюць,
Славу сватаюць —
Тут любога ў сябры
Бяры!

Тут высокі ў дзвярах вушак,
Бо растуць наабгонкі з дрэвамі,
А смакуюць тут слова крэўнае
Так,
Як з кварты цэдзяць пяршак.

Неманіны Нёман пасе,
Наравісты ў юрлівым нораве.
Ноч падол свой,
Вышыты зорамі,
Не баіцца мачыць у расе.

Можна ўсё пачынаць з нуля,
Прахапіўшыся разам з раніцай,
Каб аб шчырасць ласкава параніцца
На радзіме Янкі Брыля.

* * *

І снег таксама трапяткі,
Кранућца полымнай шчакі,
Каб не растаць,
Баіцца, чысты.
Снег лёгка падае таму,
Што пажадалася яму
Падкрэсліць
Твой пагляд вачысты...

## Ліст
## у Зялёную Дуброву

*Кастусю Цвірку*

Даўно зайздрошчу, Кастусь, табе,
Бо нарадзіцца ў Зялёнай Дуброве,
Дзе столькі шолаху ў кожным слове,
Дзе рэха з зязюляю ў даўняй змове,
Не кожнаму доліць.
Дасюль скрабе
Вясёлая зайздрасць.
Табе лісты
Ідуць зялёныя з маладосці —
Дуброва піша
І кліча ў госці
На сцежкі ўсцешнасці і мілосці,
Дзе лесуны як сваты-браты.
Каля Джэты,
Залатой гары,
Абсмаленыя кустанайскай спякотай,
Мы працавалі.
І ты з пяшчотай
Прыгадваў,
Як шэпча крыніца ўпотай,
Як рукі раскідвае
Дуб стары.
Маўклівы бор
І гуклівы гай
Цябе прымаюць,
Бо ты з Дубровы,—
Нясе спагада кошык лазовы,
І раніца радасці ў перазовы
Ідзе —
Забытую пагукай!

Ані засохнуць слоў карані,
Пакуль
Дуброва твая зелянее,
Што засланяеш ад пуставею,
Плячо падстаўляеш падлётку-надзеі.

Зялёнага лісту
Тваёй радні!

## Як пішуцца вершы

Спачатку вершы пішуцца вачыма,
Па прынцыпу:
Што бачу — ўсё пішу.
Паверыўшы вясёламу пачыну,
Ўсё хочуць вочы валачы ў душу.

Калі стамляцца пачынаюць вочы,
Дык робіцца відушчаю душа.
Не слухаючы трэтар слоў сарочы,
Душа павінна выверыць спярша
Усё, што западзе ў яе глыбока,
Каб потым ззяла думка яснавока.

Душа патрабавальнаю слыве,
Ды ўрэшце давярае галаве.
З гадамі сена здасца муравою
І пачынаюць болей галавою
Пісацца дужа правільныя вершы,
І адпаведна ўжо настрой, як шэршань,
Гудзе, і думку абвівае лой.
І вершы пішуць антыгалавой.

* * *

Як заблуканы звер,
Сляды гадоў чытаю:
Якая ты цяпер?
Ці тая ты?
Ці тая?

За даўні недавер
Сам на сябе лютую.
Я помню і цяпер
Цябе ўсё тую,
Тую.

Што толькі мне была
Травінкаю з дзялянкі,
Былінкаю святла,
Галінкаю маланкі.

Гукаю часу:
— Стой!
Гады слядоў не блытаю.
Я з той,
Я з той,
Я з той,
Дагэтуль не забытаю!

Як той бабыль з мяжы,
Сам у сябе пытаю,
Дзе ты цяпер,
Скажы,
Ці ты яшчэ ўсё тая?!

* * *

Над побытам, над драбязою
Узняцца і вольна ляцець,
Дажджынай —
Нябеснай слязою
На вейцы нябыту трымцець.
Хай вымыты свет адаб'ецца,
Як міг,
У нябеснай слязе.
Ад выраю не адаб'ецца
Душа —
Ей ляцець балазе!
Любоўю не спыненым клінам
У вырай бясконцай начы
Не ведаем, рушыць калі нам,
Хоць кроплю святла несучы.
Вятры развярэдзяць на йскрыпцы
Расстанне ў часовым жытле.
Нядоўга нам
Потам іскрыцца
У света на светлым чале.

## На вакзале

Адмітусіўшыся на вакзале
Тым,
Што завецца жыццём даўно,
Дбаем,
Ці ўсё ў хатулі звязалі:
На́быць і на́жыць,
Радно і лайно.

Рушыць цягнік наш
Да станцыі ціхай
Той,
Што спакойна
Чакае даўно,
Там не дакажаш
Ні скорай, ні пыхай,
Там не спатрэбяцца,
Як ні запіхвай,—
Набыць і нажыць,
Радно і лайно.

Багаты ці бедны,
Усё адно —
Улегцы прымае
Прадоннае дно.

* * *

Клін выбіваюць клінам,
Ну, а калі зацята
Пад сэрца зойдзе скруха,
Клін гэты выбіць чым?
Ці раннім успамінам,
Ці клінам жураўліным,
Што ў сума сам за свата,
Што сам зайшоўся глуха
Пад сэрцам аблачын?

Цяпер я разумею
Тугу старога бору,
Што за сякерай сочыць,
Як за дачкой айчым.
І мае ўсю надзею
На цёплую завею —
На хісткую апору.
Глыбей кліны падсочак,
А ён іх выб'е чым?

* * *

Не думаў я, што гэткія даўгія
Дні могуць быць — дні без цябе —
Не думаў.
Не думаў я, што не сплачу даўгі я
Зайздрослівай сваёй журбе,
Не думаў.

Не верыў я, што гэтак адзінока,
Калі цябе няма са мной,
Не верыў.
Не верыў я, наколькі хопіць вока,
Шукаць мне толькі позірк твой,
Не верыў.

Не мераў гулкасць цішыні на крокі,
І навырост расстання шлях
Не мераў.
Маладзічок тваёй пяшчоты крохкі
На поўню радасці і ў снах
Не мераў.

Майго змяркання рыска залатая
Ці чарацінка позняга світання,
Надзея жмурыцца,
Туга пытае.
А што мне адказаць
На іх пытанне?

* * *

Такая быццам, як і ўсе,
Аднак,
Але ж,
Усё ж
Зусім ты не такая.
Па непалоханай расе —
Каб не сурочыць! —
Басанож
Тваё імя ступае.

Твой недавер,
Твой смех,
Твой гнеў
Такія ж быццам, як ва ўсіх,
Ды ўсім я запярэчу:
Іначай голас твой звінеў,
Ён мне звініць,
Ён не заціх,
Вяшчуючы сустрэчу.

Такім быў, як і ўсе,
Але
Зрабіўся іншым я,
Калі
Твайму паверыў болю.
Хай адкіплю сваё ў смале,
Быць грэшным добра на зямлі,
З'іначанай табою!

## Матыў Гарсія Лоркі

Гэтае права
Было мне каханнем дадзена,
Каб вывучаў я
Пагоркі і ўпадзіны.
Рэльеф праўяраў я
З нахабнаю ласкаю
Вачыма,
Рукамі, губамі
І ўказкаю
Свайго нецярпення —
Да забыцця ўсё запомніць
Карцела.
І цяпер я
На памяць ведаю
Самую светлую
Карту твайго цела.

## Ясенін слухае Чарота

Прасмішкі і кпіны,
Свой сціснiце рот,
Здзіўленне, заслухайся,
Дрогнуўшы.
У «Стойле Пегаса» Міхась Чарот
Чытае Ясеніну «Босых на вогнішчы».

Ясенін Янку Купалу чуў
І ў перакладзе чытаў надоечы.
Цяпер,
Санцавейны свой сцішыўшы чуб,
Беларускую мову
Слухае стоячы.

Кажы,
Пераскочыўшы рэчку, гоп.
Беларускую —
Белую, незачэрненую
Зразумець і не тужыцца
Марыенгоф,
Ясенін
Жытнім словам вячэрае.

Прыцмоквае: — Л е п ш ы.
А тут за рукаў
Разанскі «леший» па-свойску тузае.
Ці гэта мядзведзь, ці пярун зарыкаў,
Ці чарацінка зайшлася музыкай.

А ў кожным слове
Свой смутак, свой боль,
Ясенін смяецца ўзрадавана:
— Хоць ён не імага, як мы з табой,

Паэт сапраўдны,
А значыць — брат ён нам...

І хоча Пегас перапасці брод
У рэчцы забытлівай вечнасці.
На беразе двое —
Гаротны чарот
І клён неапалы, сонцам прасвечаны...

* * *

І птушка шукала клетку
З не дужа густымі кратамі,
Каб круглы год, як улетку,
Хапала святла з зярнятамі.

І клетку птушка знайшла,
І гаспадара рахманага,
І стала звыкаць да стала
З ледзь не нябеснай маннаю.

І маннаю, і маною
Уволю яна паласавалася,
І клетка была імяннoю,
І поўнілася прыпасамі.

Дзялілася пер'ем з падушкай
І скрухай непазычанаю,
А птушка была
Жар-птушкай,
А клетка была пазлачаная.



Буду ў Задобрыцы ці за Цюменню,
Покуль іскрынка надзеі датлее,
Поўнаму сонечнаму зацьменню
Дзякаваць буду за прасвятленне.

Поўнае сонечнае зацьменне,
Неба засведчыць,
Гэта табою.
Ноч не варожыць, ці болей, ці меней,
У павадыркі падаўшы таполю.

У павадыркі падаўшы таполю,
Ноч пра цябе нагадаць пажадала,
Сэрца, як човен, прыбіла да болю,
Да грамалюбага берага шалу.

Шалу, якому не хочацца жалю,
Нават павага здасца знявагай.
Толькі б у душным жыццёвым кружале
Хмель незямны не прынізіўся брагай.

Цемра, свайго не шкадуючы ўмення,
Сонца за пазуху возьме,
А цені ж
Счэзнуць на момант.
У ночы зацьмення
Дотык святла
Бліскавічна ацэніш.

* * *

Сонца свеціць, ды не грэе —
Ісціну ад буквара
Паступова разумею,
Побач —сумная пара.

Сонца свеціць маладзейшым,
Прамяні не варта грэць.
Ямбаў яблыні хлудзеюць,
Вецер ветрыць рыфмаў клець.

Сонца свеціць, ды не грэе,
Мае ўладу халадок,
Аддае давер харэю
Крок мой —
Ранішні радок.

Сонца,
Іншых грэй спякотай,
Дзён маіх не караці.
Падзяліцца дай маркотай,
Хоць спагадай пасвяці!



Сівеюць сады маладой завірухай,
Вясной
Сівізной маладзеюць сады.
Жарон сваіх клопатаў рухай
І слухай,
Як цяжкай хадою ідуць халады.

Ідуць халады,
Каб забраць тваю восень,
І зазімак даць табе ў павадыры.
Прыкінь, памяркуй,
Што яшчэ засталося,
Как мог ты абменьваць дары на дары.

Даўно ты растраціў пазыкі юнацтва,
Пачаўшы гадоў недачэпных запас.
І як ні хацеў бы з самотаю знацца,
Сякерай яе не заторкнеш за пас.

Адно што знянацкай спагады сініца
Заценькае ў садзе між голых сукоў,
І будзе трылузіцца,
Мроіцца,
Сніцца,
Што ты багацён,
А не гол як сакол.

Апошняй надзеі зара-зараніца,
Хаціну святла свайго не замыкай.
Іскрынка імгнення,
Спагады сініца,
Звіні маім дням,
Не знікай,
Не змаўкай!

* * *

Жвірынкі лірыкі на дне
Ракі
Па імені Жанчына.
Вір апраметна заглыне,
Прыветна хваля захлыне,
Сум ахіне,
Што аблачына.

Вынырвай,
Патанай,
Плыві,
Надзею май убачыць бераг,
Шчырэй да ламаты ў крыві,
Хоць будзе —
Плыні не крыві —
Твой лоб у гузаках,
Што ў бэрах.

Душу дарма не барані,
Калі да дна дапасці трэба,
Каб не баяцца глыбіні.
А вецер возьме з далані
Жвірынкі —
Папялінкі неба.

* * *

Чужая душа — пацёмкі,
Як змрок табе ў страх,
Не хадзі,
На голле шрамоў,
На падцёкі
Крыві не сваёй
Не глядзі.

Чужая душа — пацёмкі,
І як ты таго не хаці,
У змроку, дзе цень стане ломкі,
Блукаць давядзецца ў жыцці.

Чужая душа — пацёмкі,
Яно і ў сваёй не святлей.
Дарэмна не думай пра ўцёкі,
Сваё адхварэй,
Адшалей.

Павер сам сабе як прароку
І ў тое, чаго не было,
І вочы прывыкнуць да змроку
І ўспомніць душа святло.

* * *

Усё жыццё — паўтор
Камедыі і драмы.
І чалавек —
Актор
Таленавіты самы.

Іграе дабрыню,
Спагаду, дабрачыннасць,
А сам упершыню
Глядзіць у свет прачынены.

Дзівуецца актор
Не раз з сябе самога.
Парыўнасць там,
Ля зор,
У халадку — знямога.

І цягне за крысо
Развага пал гарачы,
Рве не парве ласо
Скакун скупой удачы.

Зямлі аддаючы
Падобнага самому,
На зношаным плячы
Актор люляе стому.

Каля хаціны сноў
Не зачыняцца браме.
І пачынацца зноў
Камедыі і драме.

## Рыжая бліскавіца

Рэха бяру ў далоні
Радасцю блаславіцца.
Мне пазваніла сёння
Рыжая бліскавіца.

З першым дажджом вітала,
З громам, што будзе следам.
Міг —
І яна растала,
Стала туманам шэдым.

Мне пазваніла яўна
З блізкага аўтамата,
З тога, які стаяў на
Варце,
Што куль таўсматы.

Дзе мая навальніца?
Будзь жа, пярун, за свата!
Позна цяпер вініцца,
Каяцца ранавата.

Насцеж — самоты брамка!
Мае пагляд сакавіцкі
Неба майго абранка,
Рыжая бліскавіца.

## Ружанец нябёс

Гукае гняздоўі свае,
Дадому вяртаецца вырай.
І сум, што зімоваю гірай
Чужэў ля душы, адтае.

Надозыр,
уцэла,
наўскос
То лукам напятым,
то клінам
Над Гутай,
Завыдранам,
Плінам
Знікае ружанец нябёс.

Трывога вясны ў забыцці
Ўсё перабірае ружанец,
Чым скруха самоту ўражае,
Змушаючы крылы плысці?

Стаіць па калені ў вадзе
Скалела-юлёвы кустоўнік.
І рух, як нястомны вандроўнік,
Дух вечнасці ў небе вядзе.

Журлівы ружанец нябёс
У добрай нагодзе, ў нягодзе
Ўсё перабіраюць стагоддзі,
Варожаць на плён і на лёс.

І шэпча рака забыцця
Рацэ здабыцця: не турбуйся...
І круціць прадбачлівы бусел
Няспыннае кола жыцця...

# Агаворка

Хай даруе мне класіка гэта,
Калі
Выслоўе пасмею крыху зыначыць:
Каб ведаць паэта,
Трэба пабыць на ягонай зямлі
І паэтаву маці пабачыць...

* * *

Хваробішча, хваробіца
Не зробяць ні шыша,
Калі раптоўна робіцца
Відушчаю душа.

І патыхне адлеглаю,
Адступяць халады,
Кароткаю адлегласцю
Здадуцца ўсе гады,

Гады, што калісь доўгія
Былі, былі, былі.
А сум пад локаць тоўхае —
І кроплі на зямлі.

А кроплі тыя ў келіху
Свяціліся ў гульбе.
Хаціны сталі келлямі,
Дзе быў спакой табе.

Хоць блізкі шлях на могліцы,
Жагнай, адчай, ілбы.
Яшчэ буйносць намоліцца
На абразы журбы.

Знікае міжусобіца,
Дзе зло дало зарок.
Душа відушчай робіцца,
І змрок
Губляе зрок.



Нішто паўтарыць немагчыма:
Ні праўду, ні нават хлусню.
Не тымі, што сёння,
Вачыма
Я заўтра зірну ўпершыню
На позірк твой, родны нябёсам,
На стан, да спакус малады.
Мой крок з мяне здзівіцца,
Бо сам
Сваёй не пазнае хады.

Таму і прашу цябе,
Сёння,
І шчыра кажы, і хлусі,
І смела куляй у прадонне,
І ўзнось мяне на небясі!

Цябе паўтарыць немагчыма,
Таксама як і мяне.
Хай лёсу твайго аблачына
Пральецца даждтжом па вясне,
Каб зноў паўтарылася ценем
І рунню ўзялося хутчэй
Народжанае летуценнем
Вясновае свята вачэй.

* * *

Вечназялёнаму дрэву —
Чалавеку
Дазволіла вечнасць многа:
Бачыць, як цэдзіцца
Праз пальцы ў яе
Час, што падзелены
На чатыры часіны —
Зялёную,
Спелую,
Голую,
Белую.
Бачыць і адчуваць,
Як мала адведзена часу —
Адзелянее дрэва адно
І зелянее на змену
Наступнае дрэва,
Якое жыве спадзяваннем,
Што зелянецьме вечна.

## У Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве

Перад спакойнай велічча замры.
Насельніцтва славянства маладога
Плячыма грэе стылыя муры,
Кароцячы вачыма шлях да бога.

Не на пякельным — на жывым жвіры
Святыя, як ратаі, басанога
Стаяць, хоць штовякова пласт сыры
Кладзе на іх аблічча асцярога.

Душы і фрэсцы хочацца раскрыцца.
На ветры часу стыне веры крыца.
Красой падзольнай думку расцвялі.
У крыжакрылай келлі Ефрасінні
Згадаецца акрайчык неба сіні
І посах, што падаўся ў бабылі.

* * *

А самых самотных на свеце двое —
Чалавек на зямлі
І на небе бог,
Ахінуўшыся даўнінай сівою,
Звінаюць і развінаюць сувоі
Зямных трывог,
Нябесных дарог.

А чалавек, ён не бог,
Нябога,
Зямныя трывогі ягоныя ўсе.
Ён моліцца болей на поўны бохан
І, спадзяваючыся на бога,
Сваёй гадоўлі авец пасе.

Свае дарогі нябесныя ў бога
Выбоістыя, як Млечны Шлях,
Самотнаму дома сядзець убога,
Пасе перуна,
Як быка рабога,
Што можа рогі ўсадзіць наўзмах.

У госці б схадзіць
Аднаму да другога,
Не выпадае, няма калі.
Чалавек без бога не да парога,
Нялёгка з месца скрануць старога.

Вятры ўсе сцежкі пазамялі.
Адзін на небе,
Другі на зямлі,
Абодва маўчаць,
А над імі без шуму
Плывуць аблачыны іхняга суму...

* * *

Яна адна,
Зямля вякоў,
Адкуль
Жыццё пачатак брала
Шчырай верай.
Здалёк відна
Зямля бацькоў,
Матуль,
Дзе песня б'ецца
Перапёлкай шэрай.

У курганах,
Што выраслі з былін,
Спачылі
З поля подзвігу ратаі.
У туманах
Тугі спрадвечны клін
На гнёзды шчасця
Выраі вяртае.

Краса ўзышла
Аднойчы назаўжды,
Закрасавала ў душах
І ў паглядах.
Прамень святла,
Струмень жывой вады
Закаласіўся
На ачахлых лядах.

Світання сцяг
Над цемрывам начы
Расчырванеўся
Радаснаю стомай,

І на губах,
Крамяна пахнучы,
Застаўся яблык
Ранішняй аскомай.

На смерць ішлі
За гэтую зямлю,
За гэтую красу,
За сцяг світання
Сыны зямлі,
Каб засланіць раллю,
З якой нязломнасць
Збажыною ўстане.

Пакуль у нас
Пяшчотаю матуль
І рупнасцю бацькоў
Сагрэты далі,
Не посвіст куль,
А галасы зязюль
Лічыць гадоў чароды
Не прысталі.

* * *

Прадвеснем птушкі вернуцца дадому
Нябеснай сцежкай да астылых гнёзд,
Каб вырай несканчона паўтарыўся.
Пупышкі важка схіляцца да долу,
І промень босы набяжыць наўпрост,
Каб пяткі апячы на чахлай крызе.

І паўтарацца будуць партызаны
У праўнуках малых,
У згадках сноў,
У галасах сваіх лясоў і птушак.
І выбух болю —
Конь незакілзаны
Іржу гадоў ударамі падкоў
Знясе з платоў,
Як з кулямётных стужак.

Удзячны смутак,
Памяць пратрасіруй,
Пакуль на спінах згорбленых магіл
Яшчэ ўзвышаецца трава жалобы.
Чаму ты так спяшаеш,
Люты вырай?
Хай вецер малады здзімае пыл,
Што ўпаў на партызанскія шаломы...

## Бацькава імя на пліце мемарыяла «Прарыў»

Пакуль яшчэ ляжыць снягоў дзірван,
Нябёсы,
Са спагадай прыгарніце
Азяблыя на выстылым граніце
Ратайныя імёны партызан.

Яны на лютым ворыве вайны
Абначавалі, не прыйшлі дадому,
Не даўшы вестак ніякіх нікому,
Зямлі-матулі вечныя сыны.

Аблокі, ўсё акрыйце,
Акрамя
Жалобных пліт — няшчадных напамінаў.
Сярод лясных салдат, хто тут загінуў,
Мой сум чытае бацькава імя.

І снол ракет яго не азарыў,
Не дачакала бацьку перамога.
З брыгады Мельнікава
Радавога
У брацкую магілу ўзяў «Прарыў».

Рубіў ізрубы, а сабе труны
Не збіў цясляр, адгабляваны працай,
Дзе прах яго, дзе тлен?
Магілай брацкай
Стаў стылы дол ушацкай стараны.

Не скажуць ні дубы, ні валуны,
Дзе жвір ахаладзіў пякучасць болю.
Блакаднік бацька мой не выйшаў з бою.
Я за яго вяртаюся з вайны.

## Яліна цвіце

Не ўзбегшы на аброўе,
З ветру
Адна нудзее ў глухаце.
Нібы саромеецца свету,
Яліна цёмная цвіце.

Тады
З блакаднага балота
Паспела кволая ўцячы.
Яшчэ дагэтуль страх і цнота
Свае сціскаюць абручы.

Яе маланка заручала
З асколкам, што зацёк смалой.
І асавітай кулі джала
Не раз віталася з малой.

Зацяплілі бярозкі свечкі,
У белых вэлюмах яны.
Ім, маладзенькім, не засведчыць,
Як дол аралі перуны.

Удзячная цяплу і лету,
Іголкі сыпле з рукава,
Яліна свеціцца ад свету,
Як закаханая ўдава.

## Асколак аглухлага грому

I са Сьера-Маэстра каменьчык,
Як асколак аглухлага грому,
Ўмураваў Анатоль Анікейчык
У шынельна-шэрую строму.

Востраў гневу
I востраў волі —
Край ушацкі
I гордая Куба
Не чакалі спатолі долі,
Самі ўзводзілі сцены зруба,

Што прапах барамі,
Кастрамі,
Радасцю
Ды марскімі вятрамі.

Прысягаючы роднаму небу,—
Кожны рваў ланцугі знявагі —
Востраў волі
I востраў гневу.
Іх злучае праліў адвагі.

I шаснаццаць брыгад Лабанковых,
Як шаснаццаць рэспублік,
Стаялі,
Каб пасля
У Фідэлевых словах
Чулі веру салёныя далі.

I калі з недалёкай Кубы
Гоніць вецер трывогі барозны,

Іх вітае зрадзелачубы
Партызан у апратцы з бронзы.

І аблокі са Сьера-Маэстра
Чуюць роднасць таго парыву,
Што фідэлістарысы маэстра
Ўмураваў у строму «Прарыву».

## Пахі акупацыі

Паступова знікаюць жахі,
Што паспелі ў памяці акапацца,
Ды выветрывацца не жадаюць
Пахі
Акупацыі.

Мыла, як зялёная пена,
Пахне гергетаннем ля возера,
Дзе ад злосці хваля ўкіпела,
Покуль неба стагі пазвозіла.

Стыне дымам на бруку акурак,
Напалам абцасам раструшчаны.
І апуджаны спрыт,
Як нямтурык,
Сочыць за ім вачыма хітрушчымі.

І фольга —
Заморскае дзіва
На зубах малечы паблісквае.
Пах аржаное скібкі памкліва
Уцякае надрэчнай пліскаю.

І адчай — лахі пад пахі —
Сам ад сябе схавацца стараецца.
Ды перабіць не могуць ніякія пахі

Пот, што пахне ліпка,
Па-здрадніцку...

## Дома

Да цвіка апошняга
Прабрана вятрамі паветка.
Хата глядзіць на мяне
Вачыма сухімі.
Мне слязу нарэзала
Кастра ці павечка?
Мама, як некалі, з вока
Языком парушынку не выме...

* * *

Як добрая вестка
У хату нявестка,
Ёй маці павінна
Аддаць свайго сына,
Глядзіць, аглядае:
— Зусім маладая.
Не клопат дзявочы
Выцягваць калючкі.
Вялікія вочы,
Маленькія ручкі...

Гады прамінаюць,
Траву прымінаюць,
Матуля старая
Глядзіць, пазірае.
У прочкі ды ў прочкі
Вясёлыя рухі.
— Маленькія вочкі,
Вялікія рукі...

* * *

Заўхом руда,
У чарапочку вада —
Мыцца ката падахвочвае
Прымаўка,
Бруднага ёй шкада,
Спрыяе спагада жаночая.

Мыецца кот, стараецца.
А з матчынага акна
Сіні дымок не сціраецца
З прысвітку да відна.

Бяда не бяда,
Кот мыецца — на гасцей.
У чарапочку вада,
Робіцца змрок гусцей.
На жуду
Лісток-перазімак лапоча.
Разбіўся той, што трымаў ваду,
Выпаў у прымаўкі з рук,
Чарапочак,—
Кот перабег ёй дарогу.
Агонь падмёў падлогу...

## На свята Перамогі

На светлае свята
У Дзень Перамогі
Дадому прыходзяць
Здалёку дарогі.

Хадзілі дарогі,
Не чуючы стомы,
Шукалі:
Адкуль ён,
Салдат Невядомы?

А тут,
На Ушаччыне,
Кожная хата
Дагэтуль чакае
Ляснога салдата.

Хадзілі дарогі,
Збіваючы ногі,
Будзілі дарогі
Глухія парогі.

На смутнае свята
У Дзень Перамогі
Балюча збіраюцца
Разам трывогі.

Хадзілі трывогі,
Збіраючы слёзы,
Што палі на камень,
На ніцыя лозы.

Трывогі ішлі
Вёскамі, гарадамі,
Яны халадалі,
Яны галадалі.

Пагрэцца ля ўсмешак
У Дзень Перамогі
З лясоў з пераваліаў
Прыходзяць трывогі.

## Запавет

Сыходзяцца гадоў кругі
У цеснай хаце прыпамінаў,
Кругі спагады і тугі —
Ты іх нікому не пакінуў.

На дрэве ўчэпістым жыцця
І на вадзе
Кругоў багата.
І выплывае з небыцця
Знаходка першая і страта.

Наноў вяртае кожны круг,
Не скінуўшы трывогі ношу,
На ранішні ласкавы луг
І на сярдзітую пакошу.

На першы след,
На першы снег
І на праталінку спакою,
Дзе ў белы свет
Твой смех пабег
І ўжо не вернецца ніколі.

І адплыла твая рака,
Панесла крыгі і аблокі.
І толькі ўсмешка веташка
Твой зразумее сум высокі.

Завеям снегаваць стагі
На перазяблых лугавінах.
Ідуць нясплатныя даўгі,
Нібы па мінах,
Па правінах.

Уздай хвалу забытым снам,
І цішыні, і гулкім гукам.
Аддаўшы клопаты сынам,
Надзею перадай унукам.

Не прыпыніўшыся з табой,
Паўторыць зноў твая дарога
Вяртанне ў боль,
Вяртанне ў бой,
Вяртанне да сябе самога.

# Забораўна

Да нашых дзён у гародчыках пад вокнамі, у дварах, у гародах, на ворыве брацкія магілы абгароджаныя і дагледжаныя — жудасны напамін блакады.

На ўсёй зямлі
Не хапіла б сабораў на
Аплакванне ахвяраў навалы.
Не засланілася борам
Забораўна —
Тут смерць днявала і начавала.

Было тут нарогу жудасці ворыўна—
Свой люты час бяда не праспала.
Абгарадзілася горам
Забораўна.
Рука прарыву ўпала бяспала.

Вайна падалася ўслед за блакадаю.
У змоўклай згодзе дзеці і ўдовы
Магілак грады ў гародах абкладвалі.
Глядзелі ў вокны крыжы сурова.

Пакутныя хмары неба абгортвалі,
Заходзілася болем наўколле.
Нібы прысягалі жывыя з мёртвымі
З зямлі сваёй не сысці ніколі.

Расла трава ад крыві салёнаю.
Ступаў з аглядкаю ранак мохам.
Жывым быць сваёй старане заслонаю.
А мёртвыя адступаць не могуць.

На ўсіх палях не хапіла б разораў на
Зярняты,
Што ўскаласіліся б гневам.
Балюча зорам тваім,
Забораўна,—
Як мінным полем,
Праходзяць небам...

* * *

Брыдуць глыбокім снегам чараты
Бясшумныя,
Як цені расстраляных.
Зямлянкі анямелі на палянах,
Перакасіўшы ў роспачы раты.
Яшчэ дрыжаць на холадзе драты,
Лясы яшчэ дасюль у партызанах.
Варушацца жывыя чараты
Трывожныя,
Як цені расстраляных.
Жах адчыняе браму неමаты
На крумкачах, як на круках каляных.
Маўчаць з дакорам немым чараты
Прысудныя,
Як цені расстраляных.
Каб не забыў нідзе, нашчадак, ты,
Што ўся зямля — у незагойных ранах,
Крычаць вякам наступным чараты
Пакутныя,
Як цені расстраляных.

## Купае партызан каня

Спакой хавае глыбіня.
Хвіліна зацішы скупая.
Вясёла партызан купае
Свайго гарачага каня.

І юнаку і скакуну,
Нязвыкла хораша абодвум
Абдаць спакоем
Перад боем
Спатнелай рызыкі спіну.

Сляпая жмурыцца бяда.
Трывога адусюль цікуе.
Ў хвіліну вольную такую
Сабой любуецца вада.

Славянскі даўніной сівой
І партызанскі звычай гэты:
Памыўшыся, сустрэць свой бой,
Згадаўшы продкавы прыкметы.

Ці пад канём, ці на кані —
Лёс вынесе прысуд цвярозы,
І, крылы абпаліўшы, крозы
Імкнуцца ў неба чысціні.

І неўзабаве цішыня
Закрывянее немым енкам.
Нібы ў маленстве даваенным,
Купае партызан каня...

# Пісьмо
# з партызанскага бору

Адольфу прыдуркаватаму,
недачасанаму нашымі аўтаматамі,
касавокаму казлу недалупленаму,
на мюнхенскай сабакарні купленаму,
які, паўзучы на плаху,
наклаў сабе ў порткі са страху,
чэргамі кулямётнымі пісанае пісьмо
на гострых штыхах падамо:

Мы, з беларускіх лясоў партызаны,
Пішам табе, смердзюку, байструку,
Нават сабакамі не аблізаны
Будзеш баўтацца на першым суку.

Ты, людажэр, пашкадуй хоць асіны —
Досыць чакаць ім цябе, дрыжучы,
Выблюдак, вылюдак, посік асліны,
Лопнеш, здыхляк, як пухір ад мачы!

Ты ў нас заробіш ад посіка вушы,
Ў пекла паедзеш на ўласным гарбе.
Будзем табой акалачваць ігрушы
Тыя, што Гебельс расціў на вярбе.

Нас, партызан, палічыць немагчыма,
Больш нас, чым дрэў,
Чым лістоў,
Чым травы.
Мы не страляем, як ведаеш, міма.
Будзе гаршчок нам з твае галавы.

Хай цябе точаць галодныя вошы.
Здохні, ў гарачай смале акалей.
Пранцы ў духі твае, соль табе ў вочы,
Вілы — у жылы, галень між калень.

Воўк не захоча глыдаць твае косці,
Гідзяцца падлы такой крумкачы.
Мюнхенскі ты вашапруд у каросце,
Косткамі, кат, на пагосце бранчы!

Часам надарыцца: кожны ваяка
Стане на горцы, як той мінамёт,—
Ты пацалуй нас глыбока, да смаку —
Дужа салодка, бо елі мы мёд.

Мы на тваё падкалоддзе, мярліна,
Не пашкадуем ні віл, ні сукоў.
Выкурым дух твой тхарыны з Берліна.
Вару ў нас хопіць на ўсіх прусакоў!

Мы падсмалілі арлам тваім пер'е.
Што табе болей пісаць, жываглот?
Грэх тваім імем паскудзіць паперу —
Трэба спяшацца чыхвосціць твой зброд!

Марна скуголіць падбрэхіч паганы,
Радыёлыска, кульгавы твой поп.
Помняць граматыку Янкі-Іваны,
Ставячы кропку свінцовую ў лоб!

Пісьмо беларускіх партызан
дастаў з архіўных палян,
з арыгіналам пашанліва зверыў
і рыфмай цяперашняю аперыў
сын ушацкага партызана
Барадуліна Івана,
кулямі з маленства навылёт пракулен
Рыгор Барадулін.

## Вёска Гвазды

Да цябе не багата хады,
Толькі хто дабрыдзе-дападзе.
Можна ехаць гады і гады
І не ўбачыць цябе нідзе.
Дзе ты, ўшацкая вёска Гвазды?
Праплыла, як цень па вадзе,
Чорнай хмарай у неба пайшла,
Не вяртаешся на зямлю.
Я зямлю тваю да чала
Да гарачага прытулю.
Не астыла зямля яшчэ,
Прысак пад дзірваном не ачах.
І дагэтуль твой боль пячэ
І агонь у тваіх вачах.
Называю імя твае,
Ссівярэлая вёска Гвазды,
Нібы ў рукі бяру пугаўё
І ганю гады:
— Вы куды
Адбіваецеся ад чарады?
На свае вярніце сляды
Хмарку лёгкую —
Вёску Гвазды.

## Як ледавік араў

Як ледавік араў
Па цаліку ў ахвоту,
Яму хапала спраў,
Яму ставала поту!

З нябеснае сяўні
Ва ўпартыя разоры
Ляцелі з вышыні
Зярнятамі азёры.

І ў зябкай араллі,
Пазбыўшыся апекі,
Зярняты праараслі
І зарунелі рэкі.

Разоры без зярнят
Узваллямі ўтравелі.
І засінеў пагляд
Надзеі і нядзелі.

І вогнішчам купалле
Пагодзіла захмар'е:
— Іван, Іван ды Мар'я
Каціліся з узвалля.
Іван Мар'ю пераймаў,
Ручкі-ножкі цалаваў...

Узняўшы дол глухі,
Усе адбыўшы раты,
Ступіўшы лемяхі,
Лёг адпачыць араты.

Глыжамі даўніны,
Дзе цень ад стомы падаў,
Старэюць валуны
З ледавіковых лядаў...

## На сівярах

На свае сцюдзёныя рады
Тут злятаюцца ўсе вятры.
Перазяблыя сівяры
Развінуцца на волі рады.

Перагорнутая да старонкі
Тут вятрамі гісторыя ўся,
Старана ўпадабалася
Крыку слонкі,
Воку палонкі.

А яшчэ ўскудлачаным хмарам,
А яшчэ кіпятлівым вірам.
Старана, як сябрам,
Вятрам
Усміхаецца добрым тварам.

Лютавеям і завірухам
Тут раздолле правіць імшу,
Што з любога злыдня душу
Выдзьмуць
Разам з паганым духам.

Доўга стыне раса сырая.
Лёгка лётаецца лістам.
Ні зацішша, ні цвілі там,
Дзе жывуць
Скразнякі з сівярамі.

## Ушацкі лес

Зеленабровы брат,
Спагаднік і дарадца.
Не хочацца з-за крат
Зялёных выбірацца.

Мне па душы твая
Зялёная няволя,
Дзе голас ручая
Перадаецца голлю,
Дзе ходзяць туманоў
Няпуджаныя статкі,
Дзе з сонечных кляноў
Дасвецце ставіць латкі

І прышывае іх
Іголкамі іглііцы.
Маладзічка ўскалых,
Як грыбасей, імглііцца.

Мядзведзя-ласуна
Вітае дзень заможна.
Тут дзядзькам лесуна
Назваць, сустрэўшы, можна.

Вяльможныя ласі
Нясуць рагоў кароны.
На тлум не аддасі
Сваёй ніводнай кроны

Ні лютым сіверам,
Ні зманлівай спякоце.
Смалой прапахлы храм
Святлее ў цёплым поце.

Мой родны лес,
Шумі
Спрадвечна, вершалінна,
Зялёнымі дзвярмі
Адчынены гасцінна

У шчодрадайны свет
Зялёнага давер'я,
Дзе на бяскрыўдны след
Спадае цёпла пер'е.

Люблю твой весні шум,
Задумны гуд зімовы,
Ты мне даверыш сум,
Мой брат зеленабровы.

Зялёны твой канвой
Нядрэмнасцю вачысты.
Я вечны вязень твой,
Ушацкі лес вячысты!

## Сонца на ўскоце

Сонца на ўскоце. Праменне
Выпроствае рукавы.
Радуецца перамене
Ціхі абсяг баравы.

Рэчка прыгадвае кладку.
Змрок разагнаўшы густы,
Вырастуць дрэвы спачатку,
Потым — галіны, лісты.

Сонца узводзіць даміну
З вымытага святла.
Ранішняму напаміну
Сцежка тугу перайшла.

Трэба скасіць асянчыну,
Трэба абкласці бурты,
Радасць — мажную жанчыну
Выгледзець з польнай вярсты.

І перад выраем бусел
Клепіць таксама касу.
Роднай зямлёй налюбуйся,
Ўходай сваю паласу.

Думкай плыві за ракою —
Хай прывітае зямля
Ад вершаліны спакою
Да кургана-мазаля.

Зноўку зямля маладая —
Раніцай твар абдало.
Долу туман асядае
Ці зарунела святло?

* * *

Сцежкі пазараслі,
Возера зацвіло,
Бор маладзенькі падсочаны.
І забыццё ў галлі
Цёмна гняздо звіло.
Укаляініліся ўзбочыны.

Сцежкі помніць хада,
Возера б'ецца ў вачах,
Бор яшчэ пахне жывіцаю.
Смутку сябе шкада.
Зябка душы па начах.
Хочацца хмелю абвіцца
Хоць каля ўспаміну.

Восенню познаю
Пазнаю
Сваю
Радзіну...

# Прыміце!

*Ларысе Горцавай*

Прыміце — я Вам Вечалле дарую,
Глыбейшае з усіх маіх азёр,
Ушаччыну, спрадвечнасцю старую,
І ўгаслых васількоў гаючы ўзор.
Услед за Вамі позірк свой скірую,
За маладой сястрою ўшацкіх зор,
Увагай абтрасу расу сырую
І перайму зайздрослівы дакор.

І змые хваля Вечалля пакуты,
Ушаччына забудзе на гады.
Памчыць наўскач маленства смех разуты.
Зірнулі Вы — і зацвілі дзяды,
Дзядоўнік Вашай рупнасцю крануты.
Туман дыхнуць баіцца на сляды.

## Пад'язджаючы да Сафійкі

Зіме ў лясах і на палях яшчэ шырока,
Сакавіку
Яшчэ на раннім сівярку сінець.
А пачарнелая дарога,
Як сарока,
Страсае з нецярплівых крылаў снег.

## Абмоткі

Перагніла і падэшва ад кірзачоў,
у якіх пераможцы дадому вярнуліся,
за мірныя дні перанасілі вазы
і лазовых лапцей, і камашаў ненашых,
але дагэтуль, ахрышчаныя і спагадлівым
і ў меру халаднаватым словам ветэраны,
былыя вайскоўцы, што першыя
з вайной сустрэліся,
абмоткі размотваюць абутку салдацкага.
Некалі, калі маладыя былі, спасціглі
няхітрую мудрасць па трывозе абуцца:
пералічыш месяцы ад студзеня і да снежня,
абмотка нагу апаўе, падганяючы ў небяспеку.
Цяпер па начах парадзелыя воіны,
калі падступае туга ў маскхалаце,
калі як варожы лазутчык крадзецца жаль,
калі не спыняе боль артналёт зацяжны,
размотваюць абмоткі далёкіх дарог,
бінты сваіх ран незагойных.
То кроў праступае праз столькі гадоў,
то асколкам прабітая абмотка ірвецца,
то каменьчык так разане,
што іскры пасыплюцца,
то пяшчотны дотык рукі спагадаецца
не толькі медыцынскай сястрычкі
нявопытнай...
Абмоткі дарог бясконцыя, ды не вечныя.
Пакуль яны ёсць, ходзяць салдацкія ногі
дарогамі праклятымі, дарогамі дарагімі,
дарогамі скарацелымі,
якія да апошняга кроку
боль успамінаў бінтуюць...

## Ушацкай школе

Праціснуць сшытак алаўком наскрозь,
Адчуўшы за спіной дыханне лесу,
У спартзале слухаюць Еўдакію Лось,
Як першую жывую паэтэсу.

Хоць непедагагічна,
Ды, аднак,
Прызнаючы цяпер свае заганы,
Прыгадваю, як мы адчулі смак
З урока уцякаць «У партызаны».

І ў маразы ставала нам цяпла,
Гарэлі снегіры і шчок ранеты,
І Зіна,
Што ў Цялічыне жыла,
Прыходзіла, як з іншае планеты.

Ільнозавод,
Не злуйся за кулі,
Якіх, бывала,
Не хапала плану,
Яны аж з Кавалеўшчыны вялі
І ў цемрачы паходнямі палалі.

Узрост свой,
Школа родная, лічы
Стагоддзямі,
Як нашыя Ушачы.
Трымай свой школьны ранец на плячы,
Дзе ў сшытках ведаў
Поспехі і ўдачы.

# У суаўтарстве з Гудзонам

# Я пасылаю сны за акіян

Я пасылаю сны за акіян,
Каб, паблукаўшы па маіх мясцінах,
Яны масты ўспамінамі масцілі
З прымоўклых рэк,
З зажураных палян.
Я пасылаю сны за акіян.

Прашу Гудзон
Не слаць мне гуд у сон,
Хачу хоць трохі адпачыць ад гуду.
З забытай цішай ростань перабуду
І зноў вярнуся да знаёмых дзён.
Прашу Гудзон
Не слаць мне гуд у сон.

Няхай ідуць, пабыўшы дома, сны,
Нясуць з сабой маіх аблок развагу.
Абгоняць неспакою калымагу
І возьмуць раўнавагу ў баразны.
Няхай ідуць, пабыўшы дома, сны.

Ты мне са снамі дасылай лісты,
Яны спакон ідуць хутчэй за пошту,
Без мыты за давер,
Па сабекошту,
Прагнаўшы недаверу змрок густы.
Ты мне са снамі дасылай лісты.
Чуваць, як сны ідуць,—
Дрыжаць масты...

## Дзень добры!

Зірнуць хацеў бы на стагі я,
Што пад дажджамі парудзелі.
Дзень добры,
Пані настальгія —
Абранка смутку і надзея.

Ты — ўзрушлівая гаспадыня
Яго няўлоўнасці настрою,
Здалёк ідзеш у пыле, ў дыме,
Каб вока выслезіць кастрою

З таго дагодлівага лёну,
Што помніць
Сцелішча на лузе,
Дзе наплываў
Туман з адхону
На светлае чало ілюзій.

Я ўсё лічыў,
Ты — здань,
Ты — мроя,
А ты — спрадвечная, жывая.
Не сыдуцца гара з гарою,
Твая ж іголка ўсё сшывае:
Пагляд і неба,
Зоры й долы,
Каб на душы заскробся верад.
Каб, як яджгур,
настрой вясёлы
На міг парваў
Чужыны нерат.
Не томішся ні ў падарожжы,
Ні ў часе,

Што схацеў спыніцца,
З маладзіковага двухкрожжа
Самоты сумная двайніца.

Цябе шануюць дні благія,
Яны твае —
Адчай і дзіва.
Пакуль караеш,
Настальгія,
Датуль жыве ў душы Радзіма!

# Пакуль не позна

Ці рукі цішыні за столькі год
Трымаць высока купал аслабелі,
Ці хутка рушыць
Спрэчак крыгаход,—
Прымоўкла ў гудзе
Зала Асамблеі.

Аж хочацца паслухаць авадня,
Таго
(Калі мы ехалі з Ушачы),
Што біўся ў ветравую шыбу дня,
Як аскялёпак прыпару гарачы.

Здавалася, машыну возьме гіз.
Хоць руль трымаў
Скупы на слова Быкаў.
І я на міг ад лірыкі раскіс.
Ды постук малатка
Да ўвагі клікаў.

Акварыум будыніны ААН,
Дзе плаваюць і плоткі і акулы,
Затоена маўчыць,
Што акіян,
Які трывога сквапна заглынула.

Чакае ўсё,
Калі адчуе люд
Адну,
Якой на ўсіх стае, пагрозу.
Няўжо не хопіць ніякіх валют,
Каб шар зямны
Падлечваць ад склерозу!

А мусяць помніць
Рупнік і лянько,
Запозна будзе,
Як бяда ўлюцее.
Бо шар зямны,
Што маятнік Фуко,
Гайдаецца на валаску надзеі.

Ні спёклівага дня, ні авадня,
Ні сцежкі,
Дзе смяецца след дзіцячы,
Не стане.
І настане цішыня,
Што чалавечым голасам заплача.

Страх трэба гнаць,
Бо сам ён не ўцячэ.
Не спіце ўсе,
Бо на зямлі пагрозна.
Ачомайцеся, хто жывы яшчэ.
Дазвольце жыць жыццю.
Пакуль не позна!

# Пытанне

Скаланаюць бетон
звышмагутныя тракі —
З іх любы
шар зямны мог бы павалачы.
А мяне падганяюць
нецярпення сабакі,
Днём з агнём
і са свечкаю цемры ўначы
«Студэбекер» шукаю,
«студар» той, што ва Ўшачах
Нашу вуліцу ўзяць
мог бы ў кузаў за раз.
Наш айчынны
папыхкваў на чурках гарачых
Грузавік-гразявік —
і не раз — груз і граз.
Сотні тонаў
ускуляць «БелАЗы» на плечы,
А здаецца, што «студар»
за іх быў дужэй.
І шукаю,
шкадуючы па-чалавечы,
Што ён рэбрамі лёг
ля зарослых траншэй.

У піцэрыях — піца,
і ўсё ў магазінах,
Маеш грошы, заходзь
нібы ў рай,— выбірай.
І хаджу, гляджу
ў маладых успамінах,
І галодны вяртаюся
ў змучаны край.

Там такая тушонка
прыязджала ў пасылках,
Там такія галеты
прасіліся ў рот,
Сшыткі там чырванелі
ў граматычных памылках,
Поўным гаспадаром
быў няшчодры гарод.
Я смакую прысмакі
адменных гатункаў,
А тушонкі няма,
што смачнейшай была.
Мне міргаў семафор
на мяне сноб гатукаў,
Я тушонку не змог
запрасіць да стала.
Дзе яна?
Дзе касцюмчык у клетку —
з хімчысткі,
Як цяпер разумею —
навюткі тады?
Я гартаю даведнік
шматлісты і хісткі,
Ад далёкіх гадоў
пазнікалі сляды.
Падкажыце, прашу вас,
шаноўныя Штаты,
Дзе знайсці, бо, дальбог,
збіўся з ног я зусім,
«Студэбекер»,
тушонку,
касцюмчык клятчаты?
Маю чым заплаціць вам
за вашы затраты.
Гэта трэба не мне —
успамінам маім!

# Ад каго?

Ад падэшваў да каўнерыка
Напіханая амбіцыяй,
Ад каго ты так,
Амерыка,
Адгароджана паліцыяй?

Акіянавымі водамі
Ўхутаная як аўчынаю,
Задаволеная квотамі,
Пнешся быць занадта чыннаю.

Злосць нясцерпнасцю ашчэрана,
Быццам час настаў цяліцца ёй.
Ад каго ты так,
Амерыка,
Адгароджана паліцыяй?

За сваёй жа ўласнай бояззю
Сочыш, фэбээрапільная.
І ў мацерыка на поясе
Ты сама, што кольт, прышпілена.

Зманам ад краўца да мэрыка
Перакормлена, як ліцаю,
Ад каго ты так,
Амерыка,
Адгароджана паліцыяй?

Ад намеру да намерыку,
Як ад прорвы да калодзежа.
Ад сябе самой,
Амерыка,
Анічым не адгародзішся!

## Землячцы

*Хмурынцы з Ушаччыны*

Зачапілася за небаскроб
Збеглая з маіх азёр хмурынка.
Досвітку ачахлая жарынка
Астудзіла неспакою лоб.

Дзякуй, што мяне і тут знайшла,
З вечалля напіўшыся, зямлячка!
Можа, вочы туманком замгляцца —
Толькі ад зялёнага святла.

Што ўзышло за Доўжыцай вясной
І трывае аж да снегавею.
Як табе, ўшачанка, па Брадвею
Захацелася прайсці адной,

Я не заблудзіцца памагу,
Подручкі
На зайздрасць небаскробам
Пройдземся,
На злосць наіўным спробам
Наганяць зялёную тугу.

А пасля ў дарогу праваду,
Паплывеш, ад сонца залатая,
Я амаль па-ўшацку запытаю
Рэхам наўздагон:
— Хаў ду ю ду?

Застамося сумаваць адны —
Твой зямляк і небаскробаў скалы.
Толькі не растань,
Прашу ласкава —
Даплыві да ўшацкай стараны!

## Басанож

Міністр замежных спраў
З пяром у шавялюры
Ступае да трыбуны басанож,
Як вечар, галаплеч.
Ты, скептык беласкуры,
Свой твар згрыбелы
Ўсмешкай не трывож!

Ідзе належна
Каралеўства Свазеленда
Цераз вякі,
Нібы цераз пяскі.
Ідзе сівая, як і барада,
Легенда,
Аж грукаюць, здаецца,
Ступакі

Па мяккіх дыванах,
Як па жароўнях жвіру.
І мова лорда Байрана
Гучыць,
Каб да трагедый,
Што і не сасніць Шэкспіру,
Свет, ад пакут зглушэлы,
Далучыць.

Пра наступы пустэльні,
Пра пякельныя ўраганы,
Пра голад,
Што дадушыць род людскі,
Крычаць сама мальба
І гнеў раскалыханы —
І ў залу форуму
Ўрываюцца пяскі.

Хто пойдзе басанож
Туды, дзе жах сычае,
Паслом былых дзяржаў
Пасля,
Каб чалавечы след знайсці,
Калі ў адчаі
Пасыпле голаў попелам
Зямля?!

## Міхасю Стральцову

Нашто спяшаешся дагнаць мяне ты,
Мой даўні дружа,
Дружа дарагі?
Гадоў сваіх разменнае манеты
Ты шчодра не шкадуеш
Для тугі.

Ты ж заплаціў адчаем і пакутай
Жыццю спаўна не толькі за сябе.
Нашто душы, нябёсамі пачутай,
Плаціць аброк
Пражорлівай журбе?

Па безбацькоўшчыне, па злой самоце
Нашто спяшаешся дагнаць мяне?
Спагадных слоў багатае ашмоцце
Ад крыўды ў лютавей не захіне.

Ты ў маладую восень развітацца
Перад сваёй зімой паспеў дамоў,
Каб потым
Успамінамі вяртацца
Да сумных воч,
Да скрушлівых размоў.

Не пра памінкі
Думалі дакопкі,
Ты бульбін зоры браў у баразне
І заўважаў, што бацькавы атопкі
Прытомлена ступалі, як у сне.

Паўторыць вечны шлях
Бацян-цыбацька,
Раллю адчуе бульбіны лычок.

Шчымець дакорам будзе
Слова «бацька»,
Пачутае ці доўга ад дачок...

Без бацькі
На зямлі бацькоўскай глуха,
Без маці
Кужаль белены — калян.
Хай да цябе
Ідзе марудна скруха,
Як весткі да мяне
Праз акіян!

## Сэйл

Муж палыселы псее,
А з чубам на прыкмеце,
Прадай яго па сэйлу *,
Хай лысінай падсвеціць,

Якую мецьмеш суму,
Не прагадаць бы ў змроку.
Не паддавайся суму,
Вер бізнесу-прароку.

Узнось пашану ўмейлу,
Хапайлу, аббрахайлу.
Збывай таго па сэйлу,
Хто марыць ды ўздыхае.

Хто вінны, хто нявінны,
Усе крычаць павінны:
«Упэўненых зрабі з нас,
Жалезны містэр бізнес!»

Ад планаў акаселы,
Свой голас незалежны
На выбарах па сэйлу
Прадай,
А то залежыцца!

Хто семя звад пасеяў,
Хто хітрарогіх коз пас,
Пазоркава па сэйлу
Прадаць гатовы космас.
Трымае хіба клопат,
Ці ёсць на зоры попыт.

---

* Sale *(англ.)* — продаж уцэненых тавараў.

Ганконг, Венесуэлу,
Іх згоды не спытае,
Як трэба,
Дык па сэйлу
Прадасць прагрэс татальны.

Ды недаверу зелле,
Хлусню са здрадаю
Не прадаюць па сэйлу —
Цана не падае!

## Шукаю сябе

Мільгаюць, нібы гады,
Гарады,
А ў сэрцы цяпельца трапечацца,
Ахапак бярозавых дроў з грады
Прынесці наўзваж
І спаліць у печцы...
Дарогі мяняюць кірункі свае,
Дарогі з жалезнымі нервамі.
Акенца спакою мне не дае,
Забітае глуха ў сенцах фанераю.

Праспаць баючыся сонца ўсход,
Яно прачыналася разам з мамаю.
І цьмела позіркам з году ў год,
Каб стала балюча-відушчай
Журба мая.

А матчына хата адна і адна,
З хляўком схаладзелым,
З тынянкаю.
Душа мая,
Як ад ствала карынà,
Яшчэ не адстала,
Хоць ноч застаялася.

І я таксама адзін і адзін,
Праездам,
Пралётам,
Назіркам
Ля вокан чужых,
Ля чужых хацін,
З Еўропы ў Амерыку,
З Амерыкі ў Азію.

Мяняю дарогі, мяняю шляхі,
Падушкі з пуху
І з пер'я няскубленага.
У спёку засмяглы,
Ў змроку глухі,
Сябе самога шукаю згубленага.

На рэшту дзён,
Што маю ў жыцці,
Не губляю надзеі
Сябе знайсці.

# Маленне

Не з канцылярый сакратаркаю
Ішла ў вясковыя бабулі,
Была ты жнейкай,
Хлебадаркаю,
У кроў здзірала пальцы таркаю,
Калі на клёцкі драла бульбу,
Сваіх дзядоў ты памінала
І ўсіх святых не абмінала.

Бывала, што на згубу сваталі
І гналі ў высылку ў правінцыю,
Ды з заглушы начы асфальтавай
Ты прабівалася травінкай.

Крычала мала, болей змоўчвала
Невінаватая нікому
І пакаёўкай засамочанай
Ані прасілася ў харомы.

І храмаваю, і прастольнаю,
Калі бывала, дык нядоўга.
Табе адзежынай прыстойнаю
Была скарынаўская тога.

І знакамітыя абноскі
Ты не даношвала ніколі.
Сялянскі рыцар Каліноўскі
З пятлі
Гукаў табою волю.

Ускалыханы, ўзгадаваны
Табой,
Да скону закаханы

У кожны гук
Чароўны,
Крэўны,
Мая князёўна
І царэўна,
З табой я ў свяце,
Ў свеце, ў хаце,
Бо ты ў мяне
Адна, як маці,
Мова!

## Індзейскае лета

*Алесю Барушку*

Нарэшце мы ў лета індзейскае едзем,
Па-нашаму кажучы, ў бабіна.
Плывуць аблачыны —
Высокія лэдзі,
З іх кожная воблікам вабная.

Да скону нагналі аскому пракатам
І ўсім, што ва ўсім паўтаралася.
Паклонімся фарбам пулятым, стракатым,
Ляску і пяску натуральнаму.

Барвянасць, крывавасць,
Жаўтавасць і сівасць
І дрэў галізна алюмініевая.
Атава ласкава сябе пакасіла,
Лістота сябе спалавініла.

Загрэбці прагрэс
Хоча ўсё ў свае рукі,
Што робіцца, творыцца, дзеецца.
Дзе стрэлы, дзе лукі?
Лятуць віядукі.
А лета —
Паганска-індзейскае.

І, як па заказу нам,
Клін жураўліны
Згінае трохкутнік збянтэжаны.
А ці з Караліншчавіч,
Ці з Караліны
Нудзьгуюць нябесныя бежанцы.

Паверыць хачу, што яны з Чаравэчча,
Ты думаеш — выслала Брэстчына.
Паганская згубленасць па-чалавечы
У смутку душы не адпрэчана.

Яна праз вякі да травы, да крыніцы,
Да сцежак вандроўных, да выраю
Вяртае,
Каб нам у вяках не згубіцца,
Хай радасць слязою адсырае.

Губляюць калены свае пакаленні,
Свой кожнае звычай завучвае.
Адны крумкачэлі,
Адны сакалелі.
А памяць працягу — жывучая!

Індзейскае лета праз іншую мову
Вякам пра індзейцаў нагадвае.
Асфальтам шумяць капыты гумовыя.
А некалі гнаў табуны паўдзён.
А козытка, пэўна,
індзейчыкаў кратала:
— Ішлі козы багатыя, рагатыя,
Казалі: забадзём, забадзём!

Казкі свае адбылі,
Козы свае адбалі,
Словы гаючыя адбалелі.
Яно па сваей, па індзейскай зямлі
Смела ступае,
Індзейскае лета!

## Манхэтанскі лес

Як не адарваліся ад зямлі
І не дапалі да неба ледзьве
Застыглыя дрэвы, чые камлі
Глыбока ў бетон залезлі.

Аблокі спрабуюць ім зрэзаць вярхі,
Лістота шыб да ствалоў прыстыла,
Цярусіцца дождж інфармацый сухі,
І падае ноч сінтэтычнакрыла.

Шчабечуць без праціху пра сваё
Пулятыя тэлептушкі.
Аб холад кары сірэн асаўё
Свой гнеў аж да іскраў тушыць.

Нячутна прамчыць
Навальніцы экспрэс,
І гул глухатой ахінае.
Ахвотна святлее
Манхэтанскі лес
Ад скразнякоў з акіяна.

Як шашаль, людзі точаць ствалы,
Дзе загусць электрамікробаў.
Вачам неахопны, душы малы
Манхэтанскі лес небаскробаў.

Калі ўраган цішыні пранясе,
Ствол аб ствол,
Ты пачуеш, трэцца.
І вышэйшым за скамянелыя ўсе
Здасца ў небе на даху
Жывое дрэўца.

* * *

Маркоты даўняя плёнка
Велічынёю на ўвесь акіян
Праяўляецца ў Атлантычным паволі.
І палазня, і галінка зялёная
Набываюць абрысы штодня,
Ірвучы цярпення павоі.

Праяўляюцца праявамі воблікі,
Набываючы галасы,
Якія ў душы не змоўклі.
На пасе сцежкі віхлявай
Дзятлінкі кутасы,
Як снегавею званочкі-замочкі
Звіняць,
Аж не суняць.
Замкнуць іх няма ключа.
Ці ты іх сніш, ці яны цябе сняць,
Запытацца няма крумкача,
Ні заспанай кумы-савы.
Няма дзе прыхінуць галавы.
І хмары полацкія над Сафіяй,
І ўшацкія асірацелыя паплавы
Паплылі.
І з лясоў павысечаных завылі
Даўно пастраляныя ваўкі-бабылі.
Як ні малі,
Як ні лай маркоту
На чым свет стаіць,
Плёнка нідзе не засвечана.
Што ж, Атлантычны,
Дзякуй табе за турботу.
Шыла роспачы
У мяху нецярплівасці не стаіць,

Гэта вякамі,
Іхнімі цвярдымі бакамі
Засведчана.
І мне яно колецца.
А ты, акіяне,
Не паспагадаеш ніколечкі,
Праяўляеш маркоты плёнку.
Ды ўсё ж я, васпане.
Вядро вяртання
Ва ўздрыглівую палонку,
Не задушаную ледзянымі ціскамі,
Аблюбаваную памяці выдраю —
Каб у спякоту маркоты вытрываць —
Апускаю!
Дастаю халадзёнку.

## Пятай авеню

Іду па Пятай авеню
І ў думках рыфмамі звіню,
Звіняць на дне бляшанкі
Цэнты
Бязногім жабракам.
Мяшанкі,
Лесбіянкі
І сексабізнесмэнкі,
Жадаеш — напракат
Бяры сабе любую ж,
Якую аблюбуеш,
Разутую абуеш,
Разуеш і абутую,
Не зблытаеш абы тую,
Што не пакутуе
Ад той эмансіпацыі,
Якая ўсё абмацвае.

Тут вуліца парадная,
Славутая парадамі.
Як з песнямі каляднымі,
Сюды не лезь з парадамі.
Спяшайся наваліцца
На ўсё, што тлум скубе.
Шатландзец на валынцы
Іграе сам сабе.
Негр дбайна надзімае
Вялізны шар паветраны,
Нібы зямны.
Раскоша, як нямая,
Што адказаць, не ведае
Мане —
Сама з маны.

І рады не дасі
Пачуццям аніяк,
Як ні дурач іх.
Хоць колькі ні з'ясі
Сабак,
Прытым — гарачых *.
Яшчэ, калі ты ўпершыню,
Патрэбен спрыт,
Каб разабраць,
Дзе авеню,
Дзе стрыт.

Не, яўна корм не па каню,
Не той авёс.
Знікаю з Пятай авеню,
Далёка лёс
Завёз.
Шум — хоць гарні лапатаю.
Дамоў паеду ў цішыню!
Пабачыўшыся з роднай хатаю,
Дальбог жа, не маню,
Я захачу на авеню
На Пятую,
Напятую,
Асфальтапятую!

---

* Hot dog *(англ.)* — гарачы сабака, тут — бутэрброд з гарачай сасіскай.

## Насланнё

Чаканае насланнё
Кахання апошняга,
Ад бога яно, ад бога.
За пудкае птушанё
Плаці дарагую пошліну
І ўжо не шкадуй нічога.

Згарэўшы, наноў гары
На марудлівым полымі,
Не думай, што заўтра стане.
Хоць сонца даўно ўгары,
Грэйся марамі кволымі,
Што сустракаеш світанне.

Ззалеўшы, як голы гай
У ноч вераб'іную,
Думай пра май узнёслы.
Апошнюю называй
І першаю, і адзінаю,
Дбай, як вясляр, пра вёслы,

Каб радасцю даплысці
Да падмытага берага,
Дзе помах рукі гукае,—
Гэта апошні ў жыцці
Твой птах,
Што са змроку шэрага
Узляцеўшы, ў туман знікае.

Забыцца ўсё, што было,
Што ўжо не паўторыцца,
Усмешка надзеі спрыяе.
І, выйшаўшы на святло,
У самоту падайся з торбаю,
Напоўненай ноччу з краямі...

## Зялёная туга

Зялёная туга,
Не ты пазелянела,
А я зялёны сам,
Як сумная трава.
Цяпер твая чарга
Ў душы сяліцца смела.
Усё табе аддам —
Зарукай галава.
Усё табе аддам
За дрогкую галінку,
Што ў пацерках дажджын
Да шыбін падышла,
Каб маладым гадам
На чэрствую скарынку
Пасыпаў успамін
Соль першага святла.

Я сам пазелянеў,
Нібы той звон заціхлы,
Пачаў любіць свой сум
І давяраць яму.
Скажы, няхай твой гнеў
Не дужа шчэрыць іклы.
І крумкачыны крум
За жаўранка прыму.
Зялёная туга,
Прадзі з зялёнай ціны
Суровы ніткі ўток
І палатна натчы.
Салёная смуга,
Прыйдзі наладзіць ксціны,
Каб хоць адзін лісток
Зляцеў з маёй начы.

## Нью-йоркскія прыцемкі

Вуліца — белая лэдзі —
Робіцца хутка мулаткаю.
На вітрыны заглядзешся ледзьве —
І з негрыцянкай пулятаю
Сустракаешся позіркам.
А ў небе сцізоркам
Гарбатым, вялізным
Над Брадвэем вісіць маладзік.
А чаму б і не ўзысці зоркам.
І зусім не сцізорык бліснуў,
А гэта дзік
Згубіў свой ікал,
Бо ўгрызці захацеў небаскроб.
Надвячорак,
Да электрычнасці звыклы,
Крошкі зорак у жменю згроб
І засмяяўся гарэзліва —
І вочы рэклам загарэліся.
Здалёк
Падала свой голас працяглы
Ноч-негрыцянка.

## Дрэва вышыні

Родныя дрэвы
Праз акіян прараслі
І над небаскробамі
Зялёным заходзяцца пошумам.
Іх карані,
Каравыя ад аралл і,
Праціснуліся праз камяні,
Як магікане апошнія.

І скардзіцца мне
На вятры лістабойныя
Бацькаў вяз,
Голлем хінецца бярозка,
У год смерці бабулі Маланні прынесеная
З лесу, што лёс яе светла пас.
Жменьку зябкага жару
Дае абранкі маёй арабінка,
Сарамяжлівая па-ранейшаму.

Паводзяць спінамі зябка
Заляжалыя валуны
Каля Быковага ручая на Андрэеўшчыне.
А тут, на Манхэтане,
Падобныя на іх лежуны
Маўчаць,
Ні мяне, ні сябе не грэючы.

Бог лясоў і падлескаў,
Дух зялёны свой барані
Лістотны, істотны, жылісты,
Каб праз акіян прабіўшыся з глыбіні,
Крэўнасці каравыя карані
У сэрцы з пясчынкамі варушыліся...

# Бег

Бягуць усе,
Бягуць усе,
Дагнаць стараюцца здароўе.
Бягуць, нібы іх чорт нясе
Двухрогі ці двухногі.
Нягеглы — прэч з дарогі!
Бягуць ад стрэсаў, ад падаткаў,
Ад тэлерадыёападкаў.
Навушнікамі вушы
Заціснулі глушэй,
Каб голасу, што глушыць,
Не чуць.
Прагрэс, цішэй!
Не чуць бы толькі голасу
Турбот, сумлення, голаду.
Бягуць усе,
Бягуць усе
У майках, джынсах, шортах.
Па сцежках, па былой расе,
Нібы па мінлай паласе,
Па днях, адчаем зжортых.
Бягуць дарожкай вузенькай,
А рытмы аж скрыгочуць,
Адгарадзіцца музыкай
Ад свету хочуць.
А следам сірэна вые,
А ў небе звышгукавыя
Заходзяцца самалёты.
А свет, як Хрыстос, распяты.
Бягуць, а ім падсякаюць пяты
Голад, сумленне, турботы...

## Незнаёмым знаёмым з ФБР

От их всевидящего глаза,
От их всеслышащих ушей...
*М. Ю. Лермантаў*

І дню, і змярканню, і ночы
На небе, на моры, на сушы
Патрэбны ўсёбачныя вочы,
Патрэбны ўсёчуйныя вушы.

Здаецца,
Што пільным мехам
Ударылі сціплага тыпа,
Што гоніцца следам за рэхам,
За ценем сваім жа дыбае.

Нябачны, нячутна хоча
Залезці з нагамі ў душы.
Пацеюць ад пільнасці вочы,
Пыляцца ад подслухаў вушы.

Як дзён у месяца,
Трыццаць
Тых срэбранікаў і сёння.
Галоўнае прымудрыцца,
Галоўнага не правароніць.

З усіх сваіх жыл сінтэтычных
Выпруджваюцца магнітафоны —
Ад былак
Да хмар навальнічных
Праслуханы звоны,
Законы.

Падгледжана ўсё, што магчыма,
І, што немагчыма,— таксама.
Да вераду, свербу, да шчыму
Прафесія — вольная дама
Ахоплівае кліентуру
Вашыстую, чыстую і нячыстую,
Бязмозглую, галавістую і рукастую,
Вачыстую і вушастую,
Па найму, самохаць і здуру
Паўзе яна,
Шыецца,
Шастае.

І шлю я і ўдзень, і ўночы
Праклён свой
На моры, на сушы:
Аслепніце,
потныя вочы,
Аглухніце,
пыльныя вушы!

10 Зак. 2305

## Мані

Куды ні ступіш — мані *,
Круці, гані, мані!
За доларавай зданню
Ганіся дзень пры дні.

Каб толькі мані, мані
Вяліся і вялі
Твае ўсе парыванні,
Мазгамі шавялі.

Ісці да Мэры-Мані
Не думай, кавалер,
Калі не маеш мані,
Не любяць напавер!

Ах, долар, долар, долар!
І сонца ў вышыні
Прынадны мае колер.
Як цэнты — прамяні.

Хоць долар папяровы,
Як ліст падсохлы,
Ты
Туды пагляд скіроўвай,
Дзе шапацяць лісты.

Канаць без грошай горай.
За долары лягчэй
Спапеліць крэматорый
І долары вачэй!

---

* Money *(англ.)* — грошы.

## У нераце

Туды тыц, сюды торк,
Як шчупак у нераце,
Я ў рацэ тваёй, Нью-Йорк,
У душэўным верадзе.

Каб сустрэў, вітаў бы клён,
Як Ясенін некалі.
Мне рэкламы наўздагон,
Быццам козы, мэкалі.
Хоць даведнікі дасі,
Буду я няўмекаю,
Напачатку
Эй, бі, сі —
Азбуку прабэкаю.

Збрыдзеў тлум,
Смог агорк.
Згінь, пярэстаплемая
Здань.
Хоць яблык, Нью-Йорк,
Ты абраў эмблемаю,
Як яго ні круці,
Яблык з чарвяточынай.
Дый з неону канфеці
Не зусім святочнае.

Той, хто круціць, мае —
Ты
Круцішся, ўсё маючы.
Гнуць хрыбты
Твае масты,
Тоны плёну і лухты
На сабе трымаючы.

Мне Гудзон
Мірг ды морг:
Ад тугі хвароба ўся.
Што ж, Нью-Йорк —
Шумны морг,
Павыаэробвайся!

## Нераст

Нібы машыны фірмы Форда
Са статка, што пакінуў хлеў,
Магчымасці жанчыны
Горда
Прарэкламуе племя Еў.
Прыгадваю, як клёк здаровы
У селяніна жыў з вякоў:
Карова лезе да каровы —
Патрэбна весці да быкоў.

А тут і нумар тэлефона:
Звані,
Заказвай,
Выбірай
Для нецярплівасці,
Для фона —
Эмансіпацыі праз край!

У нас
Завёў у лес бы Янка,
Звалок Мікіта пад стагі,
І акрыяла б лесбіянка
Ад спаконвечнага «ку-гі».

Яшчэ б грамадскую нагрузку
Альбо сустрэчны план далі,
І прапалілі б грудзі блюзку,
Жар разадзьмулі б кавалі!

Тут марна раіць, абурацца,
Бо ў бок штурхае чарцяня:
Твая за акіянам праца
І голых ісцін чысціня!

* * *

Цябе паслаў сівун-туман
Ці надазёрны бор кашлаты,
У сум мой цераз акіян
Сама прыйшла ты.

Гаворка воч і той жа лоб
У даўняй змове з непакорай.
Мне без цябе лягчэй было б,
А можа, горай.

Залётная дажджынка з хмар
Над ліўнем мае перавагу.
Той пал, як стэпавы пажар,
Спаліў развагу.

Не веру я календару,
Дзён незваротных лістабою.
Не сам з сабою гавару —
З табой, з табою!

Нібы ў віне, ў сваёй віне
Даўно я ўсю цвярозасць вымыў.
Скажы, ці чуеш ты мяне?
Хоць слова вымаў!

## Сэнк'ю!

Сэнк'ю *! —
Падае ільдзінка ў віскі.
Сэнк'ю! —
Цэнт смяецца жабраку.
Сэнк'ю! —
Скачуць суперадаліскі,
Прагнуць суперласкі на скаку.

Сэнк'ю! —
Мне чуваць: па Сеньку шапка.
Сэнк'ю! —
Паласуе нож шчаку.
Сэнк'ю! —
Сціпласць б'юць наўзмах спачатку,
Потым здраду водзяць пад руку.

Сэнк'ю! —
Я таксама паўтараю,
Роблена ўсміхаюся віжу.
Хутка слова д з я к у й караваю
Смачнае, як з мякішу,
Скажу!

---

* Thank you *(англ.)* — дзякую.

# У цырку

А тут у ладкі пляскаюць цюлені,
А тут, як лёс, натужаны канат,
І рызыка, і страх, і захапленне —
Усё ў руках забаўлівых прынад.

І гора зноў з абліччам чалавечым
Звяртаецца са смехам да ўсяго.
Жыццё на шумны цырк падобна нечым,
Хіба што клоўны розныя ў яго.

То цішыцца, то выбухае гоман,
У руху кепі,
Курткі,
Паліто.
Дзіцячы і здзяцінены на момант,
Нью-Йорк рагоча ў цырку Шапіто.

## Падабенства

На птушак і звяроў
Падобны ўсе мы,
На добрых і на злых,
Бо як адзін
Мы з аднае касмічнае сістэмы
Сваіх сцяжын,
Сваіх мясцін,
Хацін.

На голас, чалавеча, адгукніся,
Яшчэ ўсміхніся
Птушкам і лясам,
Яны і ты даўно ў чырвонай кнізе,
Якую ты завёў паспешна сам.

Хто пракрычыць табе,
Жаўна ці слонка,
Калі змутнее чыстая бруя,
Што ў кнізе
Пахаплівая старонка
Запоўнена апошняя
Твая?

* * *

У кожнага акуляры свае,
У світання ружовыя,
У паўдня працёрта-ясныя,
У адвячорка захукана-цьмяныя,
І чорныя акуляры ў начы.
І чалавек
Бачыць свой век
Праз гэтыя акуляры...

## На выстаўцы «Інтэрпрэсфота, 79», Гавана

Гаршчок што трэба —
                        няма нараканняў,
Нібыта вачніцу
                адкрыў Паліфем.
Бясштоннік
            на касцы амерыканскай
Думае —
        і ніякіх праблем.
І здорава так
            у пейзаж увінчан
З былой галавы
                гэты боегаршчок.
Старанне выказвае
                    кубінчык
Паружавеласцю
                смуглых шчок.

* * *

Пакуль іх няма, датуль
Нідзе не знаходзім спакою.
Калі прыходзяць яны, тады
Спакою зусім не маем,
Бо мы падключаны зноў
Да штодзённых турбот,
Якія прыглухлі патроху.
І зноў мы імчымся, бяжым
Па сцежках вэрхалу,
І ўжо ні ў гасцях, ні дома —
Усе мы ў дарозе трывогі.

* * *

Ад першага ўспаміну,
Які ты помніш,
Да апошняга,
Дзе ўспомняць цябе,
Калі будзе такі —
Толькі адно імгненне.
І гэтае імгненне —
Жыццё.

## Хто?

Бежанцы і голад на зямлі,
Ад Адама свет цяжэе страхамі.
І яшчэ пры тронах каралі,
Хоць даўно царуе ўлада мафіі.

І дзяржавы, і мацерыкі,
Ўсе на шыі зніклaсці — кулонамі.
А дыктатары-цецерукі
Трызняць такавішчамі нейтроннымі.

Што трымае гэты свет стары,
Стомленае немаўлятка вечнасці,
Рынкі,
Катавальні,
Алтары,
Ці прарокі,
Ці ваўкі з авечкамі?

Сіпнуць празарліўцы, талмачы,
Ад словаабвалаў глухнуць форумы.
Зможа ўрэшце
Хто
Дапамагчы
Непрытомнаму дзіцятку хвораму?!

# Аанaчка

Нясе ўгару з пашанай эскалатар,
З далоні на далонь перадае.
ААН,
Аглухшы ад прамоў кудлатых,
Зайздросціць цёмнай смеласці яе.

А крыжык аж гарыць
На ўзгорках смуглых.
Не зразумець, ці пасмуглеў і ён
Ад дотыку да тых вышынь акруглых,
Чакаю — зазвініць.
І чую звон.

Выходжу ў ноч
Да небаскробаў змоўклых,
Нібы ў адкрыты космас астранаўт.
Змрок зашпіліў
На ўсе рэкламы смокінг,
І шум паркоўку цішы паскранаў.

У небе над Нью-Йоркам
Ані зоркі.
Не зімна, а мяне праймаюць дрыжыкі.
Іду па стрыт,
Як п'яны па градзе.
Адно, што бачу я,—
Узгоркі, ўзгоркі,
На іх звіняць збянтэжаныя крыжыкі.
Як Ганначка,
Аанaчка ідзе.

А рыфма шэпча: ўнаначкі
Няможна да ааначкі!

* * *

Вятры трывог планету робяць круглай,
Выстуджваюць сіберна жаху домны,
На ўпартасць небяспека правярае,
Лісты заўчасна тужаць без галля.
Пагляд надзеі будзе мгліцца скрухай,
Здзіўляць не перастане свет нястомны,
Нідзе стаяць не можа хата з краю,
Пакуль няспынна круціцца зямля.

Мы — землякі, мы ўсе суседзі, людзі,
Мы з космасу відны, як мурашынкі,
Яны драбнеюць, нашыя клапоты,
Перад маўчаннем вечнасці самой.
Не след нам глухнуць у агульным гудзе,
Каб наш мурашнік не разварушылі
Зайздроснасцю і сквапнасцю згрызоты
І ўсё не ахінулася зімой.

Цягнуць не варта ў космас прычындалле,
Якое на зямлі жыццё знішчае,
Ядро арэха смачнае лясное,
Ды смерць не дрэмле ў атамным ядры.
Дык не дамо, каб рэкі рэк рыдалі,
Каб зоры зор баяліся начамі,
Каб розум ахапіла паранойя.
Хай доўжыцца яшчэ
Наш свет стары!

## Хаў мач?

Хаў мач, хаў мач *
Білет на матч,
Дзе бізнэс з чалавекам
Гуляюць?
Галава як мяч
Непадуладна лекам.

Хаў мач, як мудры, растлумач,
І колькі смех,
І колькі плач
На долары каштуе?
Калі багач,
Тады гамач
І пыху непустую.

Хаў мач, а колькі ўсмешка ўдач
На выспяткі заважыць?
Тут праслязіцца і хахмач,
Як шок яго зняважыць.

Хаў мач твой сон,
Што мчыць наўскач,
Каб знікнуць недзе ў джунглях?
Ці долар гладзь, а ці камяч,
Махлюе лёс, як жулік.

Як лёс твой кпіць з цябе:
— Хаў мач?
— Хаў мач? —
Спытай і дасць Харон
Адказ,
За так не возіць ён.

---

* How much *(англ.)* — колькі каштуе.

# Чаканне зімы

*Вользе Панковай*

## I

На ўвесь амерыканскі мацярык
Духмяна ў чаі пахне мацярынка —
Спаліла цішы лугавой іскрынка
Спакойным полымем і гвалт, і крык.

Шэсцьдзесят сёмая
Не ўспомніць стрыт
Тых дзён,
Калі сюды спакой завітваў.
Было сямейных, сацыяльных бітваў.
Маўчыць гібрыд.
Дзе славянін, дзе брыт?

Руды амерыканскі мацярык
Гаючым пахам хмеліць мацярынка —
З прывечанага выраю пярынка
Прынесла з-пад аблок зубрыны рык.

І разам з намі п'юць з ракі зубры,
І нам, нібыта ў роднай хаце, душна.
Травіца-шаўкавіца,
Маці-душка
Вядзе наш сум у шчырыя бары.

Худы амерыканскі мацярык
Хістае звабным хмелем
Мацярынка —
З сузор'я празарлівых траў
Зарынка
Прапальвае далоні сноў старых.

Травы заакіянскай дужы пах
Перабівае пах чаёў Кітая.
Залётны вецер з намі чай каўтае,
Пах мацярынкі ў ветра на губах.

II

А надвор'е на зіму шляхетнае.
Зрэзаную з фермерскай ляхі
Мы капусту крышым на Манхэтане,
Будзячы нажамі стол глухі.
Храскаючы хрумсткай качарэжкаю,
Мы гаворым, як зіма ідзе
Недзе ў нас з калядамі, з цярэжкаю
Па таўстой слюдзе —
Былой вадзе.

Солім белай соллю ў цесным слоіку,
Топчам лыжкаю, каб сок дала,
І, шануючы старую логіку,
Крышаніну тоім ад святла.

Дома, ў Чорнай Вірні,
Каля Дрэтуні,
Соладка ад дыму ядлаўца.
Аж здалося нам, што на Манхэтане
Забялеўся пудкі след зайца...

## Няма

Знікаюць ветраломныя дубровы,
Дубы як сведкі шчырыя вякоў
Ідуць на труны,
На трыбуны,
Дровы,
На зуб'е зграбных аграбель,
Цвікоў.

Шлях Млечны з неба,
Як галінка кмену,
Асыпацца гатовы ў забыцці.
Дубровы з атамных дубоў
На змену
Дуброў зялёных маюцца ўзрасці.

Бухматае дастане зоры вецце,
Уцягнуць дол таўсматыя ствалы.
Радарны слых і палыновы вецер
Не памянуць жалобныя сталы.

Дубы не ў засень возьмуць,
А заслепяць
Жахлівай кронай
І не жалуды
З сукоў трывушчых упадуць
На глебу —
На многія вякі згараць гады.

І цень згарыць бярозак белакорых,
Перагарыць быцця зямнога пыл.
Каб спляжыць
Дрэвы жудасці пад корань,
Яшчэ няма
Ні тапароў, ні піл.

## Заява

Жаданне пачынае разгарацца
На схіле дзён
Падацца ў эміграцыю
І атрымаць хутчэй на выезд візу
У мудрую дзяржаву,
Дзе спакон
Самотным самадзержцам
Быў спакой,
Дзе ціша мела верх
З вярхоў да нізу,
І ўрэшце ўзяць дазвол
Прыняць падданства
Не зніклага за даўнасцю
Паганства.

Усіх прымае шчодрая дзяржава,
Дзе ўскаласіцца
Зерне мае права.
Свае сцягі
У восені з вясною.
У ёй жыве, не ведаючы меж,
Зямное,
Баравое,
Азярное
Насельніцтва,
І сам, пакуль жывеш,
Падданцам стаць
Чакаеш светлай згоды
Дзяржавы самаўзроджанай —
Прыроды.

## Слова на развітанне

Багатая, багатая, багатая,
Магутная, магутная, магутная,
Упартая, упартая, упартая —
Падкрэсліваеш гонар свой штогод.
Уцепленая дыпламатнай ватаю;
Зашклёная да неба супергутамі,
Капронная,
Нейлонная,
Поп-артная —
Прыбоем намываеш свой народ.

Амерыка, Амерыка, Амерыка,
Уладная над горамі, над доламі,
Прыслепленая ад бляску ўласнай велічы,
Ты ў свеце не адна, ўлічы адно.
Задумайся,
Ці не малая мерка
І вымяраць, і ўсё ацэньваць доларам.
Калі паляжа люд,
Як лён на сцелішчы,
Праверыш, ці прадонне мае дно.

Тваю зямлю вініць ані збіраюся,
Што два вякі яна вайны не ведала,
Няхай твая тушонка мірна рохкае,
Няхай шуміць пшаніца на бліны.
Ды неба ападзе, як шаты райскія,
Калі ракеты ўраз пакінуць седала
І крохне цішыні галінка крохкая,
Не вытрымаўшы повісу вайны.

Аб кепікі свае сама ж і вытнешся,
Паварушы не доларныя звіліны,

Не дужа спадзявайся на камп'ютэры,
Бо ў мозг прусак ім можа запаўзці.
Вадой з двух акіянаў вочы сытасці
Прамый,
Каб пыхі змрок са зроку выліўся,
І на сваім заакіянскім хутары
Не заставайся ў самазабыцці.

## Рэадаптацыя

Рэадаптацыя — калі
Глынеш забытага паветра,
Нібы з ускрытага канверта
Дастанеш ліст
З тае зямлі,
Якую на чужыне сніў.
Яна Радзімаю завецца,
І раптам цішаю ўзарвецца,
Што наплывае
З долаў, з ніў.
І ты ў сабе ўжо сам не свой,
Вярнуўся з космасу чужыны.
І будуць жмурыцца ўспаміны
Савой,
Якую асляпіў
Дзень,
Што заняўся ўрэшце дома.
Прамень,
Які змарыла стома,
З крыніцы раніцы
Надпіў.

*Нью-Йорк — Ушачы — Мінск, 1984—1985*

# Змест

## Дзень прылёту буслоў

## Тут



## У суаўтарстве з Гудзонам

**Барадулін Р.**

Б 24 Маўчанне перуна: Новая кн.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 302 с., 1 л. партр.

Новая кніга Рыгора Барадуліна «Маўчанне перуна» пра клопат нашага дня, пра геранчнае мінулае партызанскай Ушаччыны, пра адвечнае пачуццё, якое каханнем завецца. Раздзел «У суаўтарстве з Гудзонам» — вынік паездкі ў ЗША, дзе паэт прымаў удзел у рабоце XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Б $\frac{4702120200-135}{M302(05)-86}$ 48—86 ББК84Бел7

*Рыгор Иванович Бородулин*

МОЛЧАНИЕ ГРОМА

НОВАЯ КНИГА

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Карэктар *К. А. Крукоўская*

ІБ № 2406

Здадзена ў набор 25.03.86. Падп. да друку 28.08.86. АТ 00631. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура «Балтыка». Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,11+0,08 укл. Ум. фарб.-адб. 14,82. Ул.-выд. арк. 9,59. Тыраж 5400 экз. Зак. 2305. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.